Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 42 (4893) 21 кастрычніка 2016 г.



# Інтэлектуальныя масты

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК



Фота Кастуся Дробава.

Мінск, Няміга, 2016 г.

## Кнігі — лепшыя пасрэднікі ў стасунках паміж народамі

**Нездарма ў свеце ладзіцца шмат кніжных выставак, і ў розных краінах гатовыя бачыць у якасці госця Беларусь. Наша краіна актыўна прадстаўляе сябе і наогул беларускую культуру праз кнігі яшчэ і таму, што яны дапамагаюць наладжваць чалавечыя кантакты, весці дыялог з прадстаўнікамі іншых народаў, выбудоўваць партнёрскія адносіны з іншымі дзяржавамі.**

**У гэтыя дні беларускую дэлегацыю, у склад якой уваходзяць афіцыйныя асобы, выдаўцы, пісьменнікі і перакладчыкі, чакаюць у Сербіі на 61-м Міжнародным кніжным кірмашы, што праходзіць у Бялградзе і лічыцца важнай культурнай падзеяй у гэтым рэгіёне Еўропы. Сёлета кірмаш пройдзе пад слоганам «Кніга ў рукі»: у наш час для аўтараў і выдаўцоў з усіх краін важна, каб створанае знаходзіла чытача. Беларускія выдавецтвы маюць што прапанаваць сербскім чытачам з думкай пра тое, што працей зразумець блізкую культуру.**

**З 23 па 30 кастрычніка ў павільёнах Бялградскага выставачнага цэнтра збіраюцца прадставіць больш за 450 экспанентаў, сярод іх — замежныя ўдзельнікі, у тым ліку Рэспубліка Беларусь. Калі і не ганаровы госць (сёлета гэтае права аддалі Ірану), затое вельмі шаноўны: актыўныя кантакты паміж літаратарамі Беларусі і Сербіі адлюстроўваюць узровень блізкіх і сапраўды сяброўскіх стасункаў паміж народамі.**

**Кнігі Беларусі, у прыватнасці Выдавецкага дома «Звязда», рэгулярна прадстаўляюцца на Бялградскай кніжнай выстаўцы, сербскія пісьменнікі ўдзельнічаюць у круглых сталах, якія ладзяцца ў межах Дня беларускага пісьменства, а таксама бяруць удзел у мерапрыемствах Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу. Творы сербскіх пісьменнікаў і паэтаў у перакладзе друкуюцца ў часопісах «Полымя», «Нёман», «Маладосць», нашай газеце. Сёння ў чытачоў «Літаратуры і мастацтва» ёсць магчымасць лепш зразумець Сербію, адлюстраваную ў літаратурных творах.**

Працяг тэмы на 4 — 10 стар.

## Пункцірам

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Паўла Чухрая з 70-годдзем. «Ваш шматгранны талент і высокі прафесіяналізм заваявалі шырокае прызнанне не толькі ў Расіі, але і далёка за яе межамі і па заслугах адзначаны міжнароднымі ўзнагародамі. У Беларусі таксама добра ведаюць і любяць Вашу творчасць», — адзначана ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што Павел Чухрай і ў далейшым будзе радаваць гледачоў сваімі работамі і садзейнічаць умацаванню культурнага супрацоўніцтва паміж брацкімі народамі Беларусі і Расіі.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народную артыстку РСФСР Жанну Болатаву з юбілеем. «Вы належыце да выдатнай плеяды акцёраў, без якіх цяжка ўявіць сучаснае мастацтва. Шчырасць, абаяльнасць і непаўторны творчы стыль здабылі Вам любоў шырокай публікі і прызнанне калег. Вашы работы вызначаюцца глыбокім веданнем чалавечых характараў і бездакорным мастацкім густам», — гаворыцца ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што творчасць Жанны Болатавай высока цэняць і ў Беларусі, а яе імя шырока вядома прыхільнікам савецкага і расійскага тэатра і кіно.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста Расіі Мікалая Баскава з 40-годдзем. «Яркі артыстызм, талент і працавітасць дазволілі Вам заваяваць прызнанне ў знаўцаў як эстраднай, так і класічнай музыкі. У нашай краіне ведаюць і любяць Вашу творчасць і заўсёды з нецярпеннем чакаюць новых канцэртаў», — адзначана ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што шматгранная творчасць артыста і надалей будзе служыць умацаванню культурных сувязей дзвюх краін.

✔ Пад знакам Янкі Купалы праходзяць у Рызе Дні беларускай культуры. У праграме — літаратурная выстаўка, спектакль, выстаўка дзіцячых малюнкаў пра Беларусь, адкрыццё фотавыставак, святочны канцэрт і фотапраект «Радаслоўе». Адкрылі 17 кастрычніка Дні беларускай культуры ў латвійскай сталіцы фотавыстаўка Вольгі Кірылавай «Маленькія гісторыі вялікага горада» і канцэрт ансамбля беларускай песні «Лілея».

✔ Пасланні дружбы сваім равеснікам у краінах СНД, падрыхтаваныя беларускімі школьнікамі, прызнаныя самымі цікавымі пры падвядзенні вынікаў I тура міжнароднага конкурсу «Мая радзіма — СНД», прымеркаванага да 25-годдзя стварэння Саюза Незалежных Дзяржаў. Кожнае пасланне — гэта вынік творчай работы калектыву навучэнцаў, выкананай у выглядзе прэзентацыі, падмацаванай відэазваротам да равеснікаў за мяжой.

✔ Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прапануе «наведаць» гістарычныя аб'екты, якія не захаваліся, убачыць іх у першапачатковым стане і нават здзейсніць невялікае падарожжа. Магчымасць зазірнуць ва ўяўную рэальнасць з'явілася дзякуючы сучасным 3D-тэхналогіям.

# З'езд як аснова далейшага руху

**У Маскве, у Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, прайшоў другі з'езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Падзею можна лічыць знакавай для справы кансалідацыі пісьменніцкіх супольнасцей Беларусі і Расіі. Прадстаўнічая дэлегацыя з Мінска, у якую ўваходзілі кіраўнікі беларускага творчага аб'яднання, паэты, празаікі з усіх рэгіёнаў краіны, ехала ў Маскву са спадзяваннямі: што гэты форум прынясе для творчай супольнасці?**

### *Беларусь як родная і блізкая сястра Расіі*

Памятаю, што ў свой час і адно з мінскіх выдавецтваў выпусціла ў свет кнігу вершаў «Спеў пра Расію», дзе былі змешчаны творы пра родную, блізкую ўсім нам краіну. Пэўна ж, і зараз магла б нарадзіцца такая кніга з твораў многіх сучасных айчынных літаратараў. Пісьменнікі нашай краіны знаходзяцца ў цесных стасунках з расійскімі рэгіёнамі, з калегамі з Масквы, Санкт-Пецярбурга. Шмат друкуюцца ў часопісах, газетах. Яркім прыкладам супрацоўніцтва з'яўляюцца «беларускія нумары» часопіса «Наш современник». Выступаючы на з'ездзе, яго галоўны рэдактар, паэт, літаратуразнаўца Станіслаў Куняеў падкрэсліў, што, пачынаючы з 2004 года, на старонках выдання неаднойчы выступаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь — з артыкулам, інтэрв'ю па самых актуальных праблемах развіцця грамадства, па пытаннях будаўніцтва Саюзнай дзяржавы. Дарэчы, Станіслаў Куняеў з'яўляецца перакладчыкам паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» на рускую мову. А пачатак яго знаёмства з нашай старонкай — у далёкіх 1960-х гадах, калі літаратар упершыню наведаў Беларусь з камандзіроўкай ад часопіса «Нёман». Так маглі б распавесці пра сваю «беларускасць» і іншыя ўдзельнікі з'езда з расійскага боку. Сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Казакоў нарадзіўся на Магілёўшчыне. Празаік і публіцыст Алесь Кажадуб родам з Берасцейшчыны. Мікалай Іваноў, хаця родам і з Бранска, — часты госць у Беларусі. Друкуецца ў часопісе «Нёман».

Відаць, якраз гэтая ўзаемнасць, жаданне жыць адной творчай прасторай і кіравала настроем у час работы з'езда. Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СП Беларусі празаік Уладзімір Гаўрыловіч назваў мноства прыкладаў, калі яго гомельскія калегі знаходзяцца ў прыязных стасунках з паэтамі з Расіі, выдалі шмат сумесных кніг, перакладаюць творы адзін аднаго.

### *Беларусь — творчае апірышча для мастакоў слова з Расіі*

Такую выснову можна было зрабіць з даклада старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыні Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Мікалая Чаргінца. Ён распавёў пра шматлікія цікавыя праекты, дзе талентам не цесна. І найбольш важкі сярод іншых клопатаў — часопіс «Белая Вежа», які з'яўляецца фактычна органам Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Сёння любы праект масмедыя досыць цяжка заваёўвае месца «пад сонцам». І таму асабліва прыемна, што «Белая Вежа» заваявала аўтарытэт, набыла ўласнае аблічча.

Саюз пісьменнікаў Беларусі многія свае арганізацыйна-творчыя праекты пазіцыянуе як справы агульнай беларуска-расійскай прасторы. Круглыя сталы, творчыя імпрэзы, якія ладзяцца ў Дзень беларускага пісьменства і ў час правядзення традыцыйнай лютаўскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, — заўсёды з удзелам гасцей з Расіі. Як і Міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час». Станіслаў Куняеў, Генадзь Іваноў, Мікалай Іваноў, Барыс Арлоў, Валерый Ганічаў, Аляксандр Праханаў, Іван Сабіла, Валерый Казакоў, Алесь Кажадуб, Любоў Турбіна і шмат хто яшчэ з расійскіх калег — добрыя сябры Беларусі. Дзякуючы ім у Маскве і Санкт-Пецярбургу з'яўляюцца новыя публікацыі беларускіх пісьменнікаў. Дзякуючы ім руская літаратура, як і руская мова, па-ранейшаму застаецца мастом для ўваходжання беларускага прыгожага пісьменства ў шырокі свет. І дзякуючы ў значнай ступені ім многія аўтары з Беларусі атрымалі прэстыжныя расійскія прэміі і іншыя адзнакі.

### *Літаратуру не можа рухаць камерцыялізацыя...*

З грунтоўнай прамовай на другім з'ездзе Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы выступіў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі. Ён перш-наперш агучыў прывітальнае слова нашага прэзідэнта аўтарытэтнаму форуму творчай інтэлігенцыі. «Вы ўзялі на сябе высакародную місію — садзейнічаць умацаванню дружбы і ўзаемаразумення паміж народамі Беларусі і Расіі, працаваць над пабудовай агульнай культурнай прасторы, адстойваць высокія эстэтычныя і маральныя ідэалы», — гаворыцца ў пасланні Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Ігар Бузоўскі працягнуў фундаментальны пасыл з прывітання прэзідэнта. Літаратура сёння не можа развівацца толькі па законах камерцыялізацыі. Творчыя людзі, не толькі пісьменнікі, але і кінематаграфісты, акцёры, рэжысёры тэатра, мастакі, несучы сацыяльную адказнасць за сваю справу, павінны разумець, што сённяшні час накладвае асаблівыя абавязкі. Словам, творам мастацтва можна ўплываць на свядомасць людзей на ўзроўні масмедыя, інфармацыйнай прасторы. Духоўная, маральная бяспека грамадства — гэта і разумная палітыка ў галіне літаратуры, культуры. Дзве дарогі, два кірункі могуць развіваць духоўныя складнікі жыцця ў аднолькавай ступені — разуменне галоўнай задачы самімі творцамі і падтрымка іх з боку ўлады, грамадства. Калі не разумець гэтага, то можна шмат страціць.

Пасля з'езда пачаўся новы этап у жыццядзейнасці важнай для Беларусі і Расіі творчай арганізацыі. Абраныя сустаршыні — Мікалай Чаргінец і Валерый Ганічаў. Абраны прэзідыум і праўленне. Прыняты зварот другога з'езда. Ёсць у ім і такія словы: «Славянскі свет як адзіны духоўны, культурны і сацыяльны арганізм, які існаваў у адзінстве шматаблічча, сёння падзелены: і духоўна, і палітычна, і геаграфічна. Нашы народы ізноў пастаўлены перад гістарычным выбарам, але ў нас ёсць свая асаблівая зброя абароны. Гэта кнігі рускіх і беларускіх пісьменнікаў Кірылы Тураўскага, Максіма Багдановіча, Сімяона Полацкага, Ламаносава і Пушкіна, Гогаля і Дастаеўскага, Ганчарова і Талстога, Ясеніна і Шолахава, Чэхава і Міколы Гусоўскага, Францыска Скарыны і Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Мікалая Астроўскага, Аляксандра Фадзеева, Юрыя Бондарава, Івана Стаднюка, Міхаіла Аляксеева, Васіля Быкава і Максіма Танка, а таксама творы многіх іншых таленавітых пісьменнікаў нашых краін, якія зрабілі ўнёсак не толькі ў развіццё сусветнай цывілізацыі. Культура і ёсць тая глеба, на якой узрастуць новыя парасткі нашай узаемнасці.

Для кожнага з нас найважнейшай каштоўнасцю з'яўляецца мір...»

**Сяргей ШЫЧКО**

*Расійская Федэрацыя, г. Масква.*



**Алена Стэльмах, празаік, публіцыст, намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Досыць сімпатычна выглядала ў справаздачах, асноўным дакладзе праца беларускага боку ў кансалідацыі творчых памкненняў пісьменнікаў Беларусі і Расіі. Уражлівымі падаюцца здабыткі, якія агучыў старшыня СП Беларусі Мікалай Чаргінец, характарызуючы стан беларуска-расійскіх літаратурных адносін. Ужо дзеля гэтага трэба было сабрацца ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Прыемна, што вялікая група беларускіх літаратараў узнагароджана медалём «Памяць Расіі», заснаваным Саюзам пісьменнікаў Расіі.



**Валерый Казакоў, празаік, паэт, публіцыст, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі:**

— Хацелася б бачыць не столькі ад з'езда, колькі ад расіян увогуле большай увагі да Беларусі — стратэгічнага партнёра Расіі ў многіх клопатах, не толькі ў будаўніцтве Саюзнай дзяржавы. Шмат што робіцца па публікацыях беларускіх аўтараў у расійскай літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Паэты, празаікі з Беларусі часта друкуюцца ў «Нашем современнике», «Литературной газете», «Сибирских огнях», іншых выданнях. Складаней з кнігамі. Беларусы маглі б удзельнічаць шырэй у расійскіх літаратурных конкурсах.



**Сяргей Клімковіч, празаік:**

— Я ў свой час закончыў Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага. З Масквой цесна звязаная частка майго жыцця. Лічу, што кантакты з расійскай літаратурай у нас павінны быць досыць шчыльнымі. Гэта важна і з пункту гледжання маштабаў мастацкага працэсу. Зазіраючы ў тыя абсягі, якія адольваюць пісьменнікі Расіі, заўсёды можна нешта ўзяць у якасці прыкладу.



**Мікалай Іваноў, празаік, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі:**

— З цікавасцю слухаў усе выступленні ўдзельнікаў з'езда. Прыемна, што пісьменніцкую арганізацыю Беларусі ўзначальвае чалавек, які прайшоў праз Афганістан. Мой журналісцкі лёс, лёс афіцэра-дэсантніка таксама самым цесным чынам звязаны з Афганістанам. Першая мая аповесць — «Навальніца над Гіндукушам» — пра савецкіх салдат і афіцэраў, якім дасталіся няпростыя выпрабаванні. Гавару пра гэта яшчэ і таму, што ад Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы чакаю вялікай працы па героіка-патрыятычным выхаванні чытача. Духоўныя бастыёны — вось што нам варта выбудоўваць разам у Саюзнай дзяржаве Расіі і Беларусі, у Саюзе пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы.



**Алесь Кажадуб, празаік:**

— Доўгі час «Литературная газета» давала (на працягу некалькіх гадоў) дадатак, прысвечаны беларускай літаратуры, — «Лад». За гэты час дзясяткі паэтаў і празаікаў надрукавалі ў перакладзе на рускую мову свае творы. Мы моцна падтрымалі і тых пісьменнікаў, якія пішуць па-руску і жывуць у Беларусі. «Лад» не абмінаў увагай юбілеі пісьменнікаў-класікаў, творцаў з тых пакаленняў, якія адышлі, але пакінулі выразны след у літаратуры Беларусі. Шмат змяшчалася анатацый, рэцэнзій на свежыя кнігі. Друкаваліся інтэрв'ю з галоўнымі рэдактарамі літаратурна-мастацкіх выданняў Беларусі. Чаму б не аднавіць гэтую практыку? Творчы праект у свой час моцна падтрымліваўся Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы.

# Стварыць сусвет
## на «Кніга=Свеце»

**Культурны статус чытача, праблемы дзіцячага чытання, уплыў інтэрнэту на чытача і шмат іншых пытанняў абмеркавалі на форуме «Кніга=Свет: сучасны стан і стратэгіі развіцця нацыянальнай прасторы чытання», якія адбыўся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**



Фота Надзеі Бужан.

Падчас форуму «Кніга=Свет».

Старшыня арганізацыйнага камітэта форуму, крытык Ірына Шаўлякова-Барзенка адзначыла, што стварэнне мерапрыемства — з'ява прэцэдэнтная: «Цікавая справа, калі з маленькай ідэі, у рэалізацыю якой сам спачатку не вершы, вырастае такі форум. На "Кніга=Свеце" можна зразумець, наколькі важнай была супольная праца людзей, прадстаўнікоў так званай нацыянальнай прасторы чытання (гэта і выдаўцы, літаратары, журналісты, бібліятэкары, чытачы), у кожнага з удзельнікаў якой свой погляд на праблему чытання як комплексную праблему і свае меркаванні пра тое, як яе вырашыць».

Адным з арганізатараў форуму стаў Выдавецкі дом «Звязда», яго дырэктар Алесь Карлюкевіч падкрэсліў: «Сёння востра стаіць пытанне аб'яднання рэсурсаў — інфармацыйных, мастацкіх. Невядома, якім будзе наш праект, але сумненне — гэта заўсёды шлях да развіцця. Тым не менш сама ініцыятыва — паляднаць бакол не толькі інфармацыйнага, электроннага праекта "Кніга=Свет", але і аб'яднаць інтэлектуальныя, у першую чаргу пісьменніцкія рэсурсы. Актуалія мерапрыемства, што скіроўвае да значнасці ўвагі да чытання і яго праблем, заключаецца ў тым, што розным сацыяльным групам і аўдыторыям патрэбны рэкамендацыі мастацкія, заснаваныя на працы крытыкаў, меркаванні саміх пісьменнікаў».

На форуме таксама прэзентавалі інтэрнэт-версію «Кніга=Свету», які працуе зараз у тэставым рэжыме, паведаміла супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі Гульнара Юсцінская: «Мы спрабуем стварыць кніжны сусвет разам і хочам прапагандаваць нацыянальную літаратуру і кнігавыданне, павысіць чытацкую матывацыю да інтэлектуальнага развіцця. Хацелася б, каб у гэтым сеткавым працэсе ўдзельнічалі і выкладчыкі, і навукоўцы, і вучні, чытачы, крытыкі, выдаўцы».

Варта адзначыць, што пляцоўку для правядзення форуму прадаставіла Нацыянальная бібліятэка Беларусі, для якой гэтая падзея таксама важная, распавёў яе дырэктар Раман Матульскі: «Мы не маглі не падтрымаць такую ініцыятыву, бо праблемы чытання — перш-наперш нашы сутнасныя, родныя бібліятэчныя праблемы, і мы гатовы ўзяцца за іх вырашэнне ў любым фармаце. У ланцугу тых, хто мае дачыненне да стварэння гэтага цуду, кнігі, шмат звёнаў: гэта і выдаўцы, і паліграфісты, і выкладчыкі, але галоўны ўсё ж — аўтар. Гэта менавіта той чалавек, які са штодзённай мітусні можа вылучыць тое, што турбуе нас сённяшніх, што будзе цікава праз гады, ператворыць гэта ў мастацкі вобраз, які будзе зразумелы ўсім».

Падчас мерапрыемства ўзнагародзілі лепшых бібліятэкараў сістэмы культуры і адукацыі, а таксама пераможцаў другога этапу культурна-асветніцкага марафону «Культ-Пра-Свет» і дыстанцыйнага праекта «Спадчына.TUT». Дырэктар «Нацыянальнага інстытута адукацыі» Сяргей Важнік адзначыў, што гэта таксама знакава і вельмі важна, бо форум спрыяе пашырэнню чытацкай аўдыторыі беларускай літаратуры: «Праект амбітны, асабліва ў Год культуры, гэта непасрэдны водгук на пажаданні педагогаў, літаратараў і выдаўцоў. Трэба задумацца над слоганам праекта — "ствараем кніжны свет разам". Гэты сусвет нам дапамагаюць ствараць і газеты, і выдавецтвы, і бібліятэка. Мы хочам не толькі развіваць чытацкую культуру, ствараць інавацыйны творчы асяродак, але і спрабуем зрабіць так, каб чытанне ўспрымалася як нацыянальная культурная каштоўнасць».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

### Дайджэст

• Брытанскі дызайнер Вів'ен Вествуд выпускае кнігу, заснаваную на анлайн-дзённіку. Яна так і называецца: *«Get a Life: The Diaries of Vivienne Westwood»*. Гэта дзясятая літаратурная работа славутасці моднай індустрыі. Уласна дзённік пачаў публікавацца ў 2010 годзе: штомесяц Вествуд выкладала некалькі пастоў з меркаваннямі пра моду, культуру, палітыку, мастацтва і актуальныя пытанні сучаснасці. Яе нататкі вельмі хутка заваявалі вялікую папулярнасць праз сваю надзвычайную шчырасць і праўдзівасць. Дызайнер пісала: «Я зразумела, прычына таго, што я раблю цягам усяго свайго жыцця, засталася ранейшай: я імкнуся спазнаць свет дзеля яго самога і выкарыстаць гэтыя веды ў добрых справах, каб давесці, што кожны мае такі ж шанец, што і я».

• Яшчэ адна кніжная навінка чакаецца ў хуткім часе: вакаліст нямецкага гурта *Rammstein* Ціль Ліндэман прэзентуе зборнік вершаў. У Расіі выпускам кнігі займаецца выдавецтва «Эксмо». Раней на рускую мову перакладалася паэтычная кніга Ліндэмана «У ціхай начы. Лірыка»; у Германіі ж спявак вядомы як паэт яшчэ й дзякуючы кнізе «Нож». Цікава, што бацька Ціля Ліндэмана, Вернэр Ліндэман, быў вядомым мастаком, паэтам і дзіцячым пісьменнікам. Між тым вершы Ціля наўрад ці параіш дзецям: яны часта правакацыйныя і не раз былі нагодай для скандалаў у грамадскасці, вынікам аднаго з якіх стала масавае знішчэнне музычных копій песні *«Ich tu dir weh»*. Таму на расійскі кніжны рынак кніга выйдзе з пазнакай «18+».

• Надзвычайным попытам карыстаецца адзін з тавараў інтэрнэт-крамы *Amazon*: нядаўна сярод іншых выданняў з'явілася кулінарная кніга Сальвадора Далі, якая ў вялікі продаж мусіць выйсці 20 лістапада. Перавыдаваная праз 43 гады кніга «Далі: Абед Галы» цяпер «размаўляе» па-англійску. Праект ажыццявіла нямецкае выдавецтва *Taschen*. У 1973 годзе, калі кніга была выдадзеная ўпершыню, вельмі хутка яе было не знайсці: усе экзэмпляры пайшлі ў прыватныя калекцыі. У кулінарны том, падзелены на 12 частак, уключаны 136 рэцэптаў, апрабаваныя самім Далі і яго каханай Галай. Безумоўна, асобнай увагі ў выданні заслугоўваюць ілюстрацыі.

• Кінастудыя *Walt Disney* звярнула гэтым разам увагу на раман Мігеля Сервантэса «Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчскі». Рыцарскую гісторыю збіраюцца экранізаваць — поўнаметражным фільмам. Прадзюсар праекта Гордан Грэй абраў сцэнарыстам Білі Рэя, які працаваў над «Галоднымі гульнямі» і «Капітанам Філіпсам». Фільм хочуць зрабіць відовішчным, у звычайным галівудскім духу, але разам з тым — перадаць атмасферу Сярэднявечча. Некаторыя элементы будуць запазычаныя ў франшызы «Піраты Карыбскага мора». Выхад стужкі прымеркаваны да 400-годдзя з дня смерці Сервантэса. Нагадаем, што да нядаўняга часу месца пахавання іспанскага класіка было невядомае: толькі летась археолагі выявілі яго ў Мадрыдзе, у сутарэннях капліцы манастыра Троіцы.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**25 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Аляксандрам Вашчанкам і Інай Фраловай, якая адбудзецца ў бібліятэцы для сляпых (вул. Якубоўскага, д. 52). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**26 кастрычніка** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16) на творчую імпрэзу паэта Валерыя Максімовіча. Пачатак у 17.30.*

**27 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай, літаратуразнаўцай і крытыкам, лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі Таццянай Мацюхінай у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**27 кастрычніка** — *на творчы вечар пісьменніцы Ніны Каленчыкавай «Любві даверлівая птушка» ў Мемарыяльную залу Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак у 16.30.*

**27 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17.30.*

**27 кастрычніка** — *у Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5) на паэтычна-музычнае свята «Асенняя гісторыя» з удзелам групы беларускіх паэтаў, спевакоў і кампазітараў. Уваход па запрашэннях. Пачатак у 19.00.*

**28 кастрычніка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — паэт Міхась Пазнякоў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**28 кастрычніка** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**26 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу членаў дзіцячага літаратурнага клуба «Планета дзяцінства» з паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнка ў віцебскую абласную бібліятэку імя Я. Коласа (вул. М. Горкага, 120). Пачатак у 11.00.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**25 кастрычніка** — *на літаратурную сустрэчу з маладой паэтэсай Алай Бяльковай «Свет гармоніі ды прыгажосці, сонечнага свята і вясёлкавага неба» ў межах праекта «Гомельскі пісьменніцкі дэсант» у філіял № 4 ЦГБ імя А. І. Герцэна (вул. Багданава, 24). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**27 кастрычніка** — *на паэтычны вечар «Абярэгі творчасці Іны Спасібінай» у філіял № 15 ЦГБ імя А. І. Герцэна (вул. Яфрэмава, 2, корп. 1). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**27 кастрычніка** — *на літаратурны ўрок «Чарадзейны свет Васіля Віткі» ў філіял № 12 ЦГБ імя А. І. Герцэна (вул. Ільіча, 87). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**28 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з сябрам СПБ і Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Васілём Ткачовым «Мініяцюра ў маналогу» ў межах праекта «Гомельскі пісьменніцкі дэсант» у філіял № 11 ЦГБ імя А. І. Герцэна (Рэчыцкая шаша, 65). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**28 кастрычніка** — *у «Літаратурную школу» Гомельскага абласнога аддзялення СПБ (вул. Савецкая, 126, пакой 401) на ўрок пісьменніка для вучняў школ г. Гомеля, які правядзе старшыня аддзялення, празаік Уладзімір Гаўрыловіч. Тэма ўрока — «Пісьменнікі-землякі і Вялікая Айчынная вайна». Пачатак у 12.20.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**25 кастрычніка** — *на літаратурную сустрэчу з пісьменніцай Людмілай Кебіч у Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў (г. Гродна, бульвар Ленінскага Камсамола, 23). Пачатак у 12.45.*

**25 кастрычніка** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Словадром» у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага (г. Гродна, вул. Замкавая, 20, Новы замак). Тэма дыскусіі: «Талент шматгранны». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**28 кастрычніка** — *на канцэрт па творах гродзенскіх паэтаў і кампазітараў «Гродна — ты мой лёс, мая паходня» ў Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў (г. Гродна, бульвар Ленінскага Камсамола, 23). Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Ідзе падпіска на I паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 30 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 10 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 2 р. 80 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 10 к. | 63880 |

# Розныя і блізкія

**Тэма дыялогу культур у кантэксце сацыякультурнага развіцця дзяржаў і народаў сёння асабліва папулярная. Тым больш калі дзяржавы і народы звязаныя гісторыяй, падобныя звычаямі. Што мы, прыкладам, ведаем пра Сербію? А ў Сербіі — пра нас? Падаецца, самы надзейны даведнік па той ці іншай, далёкай ці блізкай краіне — культура. І, зразумела, дыялог! Няхай сабе нават на ўзроўні кароткай гутаркі.**



Фота Алены Бізуноквай.

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь Велька Кавачавіч.*

Чым кіруецца дыпламатычная місія ў сваёй працы ў сферы культуры? Што лічыць прыярытэтным? Які плён? Гэтыя пытанні «ЛіМ» адрасаваў Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь Велька Кавачавічу.

«Між Сербіяй і Беларуссю — традыцыйна дружалюбныя і блізкія адносіны, якія магчыма развіваць па ўсіх кірунках, у тым ліку і ў культуры, — падкрэсліў спадар пасол. — Супрацоўніцтва ў галіне культуры абгрунтаванае міжурадавай дамовай, а таксама пяцігадовай праграмай супрацоўніцтва, якую падпісалі міністры культуры Сербіі і Беларусі ў 2012 годзе».

Плённа развіваецца ўзаемадзеянне паміж Нацыянальным тэатрам Сербіі і Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета Беларусі, Нацыянальнай бібліятэкай Сербіі і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Падпісаныя і актыўна дзейнічаюць дамовы аб супрацоўніцтве паміж 8 універсітэтамі нашых краін.

Што да літаратуры, вялікая ўвага надаецца перакладчыцкай дзейнасці. Перыядычна друкуюцца перакладныя творы сербскіх аўтараў Беларусі і беларускіх — у Сербіі.

«У гэтым кантэксце нельга не згадаць імя прафесара Івана Аляксеевіча Чароты, выбітнага перакладчыка і дзеяча культуры, якога Прэзідэнт Сербіі Таміслаў Нікаліч адзначыў сярэбраным медалём "За заслугі", — адзначае спадар пасол.— Не так даўно ў Бялградзе выйшла "Анталогія беларускай паэзіі", укладальнік якой — шаноўны прафесар».

А вось і яшчэ істотны вынік супрацоўніцтва. З 28 па 30 чэрвеня ў беларускай сталіцы прайшло значнае для сербска-беларускіх стасункаў мерапрыемства — Дні Бялграда ў Мінску, у межах якога быў арганізаваны канцэрт духоўнай сербскай, візантыйскай музыкі ў выкананні добра вядомай сербскай спявачкі Дзіўны Любоевіч і ансамбля «Мелодзі», вакальнай групы «Канстанцін», вядомых у Сербіі музыкантаў Ёвана і Нады Калунджыі…

«Падчас нашай сустрэчы з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Барысам Уладзіміравічам Святловым 18 мая былі абмеркаваныя пытанні супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў у сферы культуры, пазначаныя кірункі, якія неабходна развіваць, — распавёў кіраўнік дыпламатычнай місіі Сербіі. — Гэта ўзаемадзеянне нацыянальных тэатраў дзвюх краін, правядзенне Дзён культуры Беларусі ў Сербіі ў 2017 годзе, наладжванне прамых кантактаў з установамі культуры абедзвюх краін».

Народная бібліятэка Сербіі прадаставіць арыгінальныя выданні са свайго фонду ў сувязі з правядзеннем Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі выстаўкі «Францыск Скарына і яго эпоха» ў гонар 500-годдзя беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання.

А яшчэ Сербія — актыўны ўдзельнік культурных мерапрыемстваў, якія ладзіць Беларусь, у тым ліку «Славянскага базару ў Віцебску», Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». У кастрычніку прадстаўнікі Беларусі традыцыйна бяруць удзел у міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Бялградзе.

«Хоць двухбаковае супрацоўніцтва ў галіне культуры пакуль не на той прыступцы, якой хацелі б дасягнуць бакі, патэнцыял для далейшага развіцця існуе, — упэўнены спадар пасол. — Бо толькі актыўнае культурнае ўзаемадзеянне забяспечвае нашым адносінам сапраўдную глыбіню, якая стагоддзямі звязвала братэрскія народы».

Часам атрымліваецца так, што палітычныя і эканамічныя адносіны залежныя ад розных умоў, але сувязі ў галіне культуры даюць трывалы падмурак для ўзаемадзеяння і збліжэння нашых народаў. Спадар Велька Кавачавіч у гэтым перакананы.

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

# З агульным падмуркам

…Калі нашы людзі вяртаюцца з Сербіі, то звычайна перапоўненыя вялікім уражаннем ад краіны, культуры, людзей. Успамінаюць гасціннасць, шчырасць, адкрытасць сербаў, а таксама тое, што з імі беларусу вельмі лёгка знайсці агульную мову. Мы звычайна хутка знаходзім паразуменне па ключавых пытаннях, падобным чынам ацэньваем мінулае і аднолькава бачым будучыню.

Абедзве краіны **славянскія**: нас аб'ядноўвае агульная спадчына святых Кірыла і Мяфодзія, на падмурку якой фарміраваліся мовы і культуры. Таму часткова нашы народы могуць разумець адзін аднаго. Так, мы аддаленыя геаграфічна, перыпетыі гістарычнага развіцця часта нас разводзілі ў розных кірунках, аднак усё ж такі еднасць сакральнай прамовы і далейшыя кантакты абумовілі некаторую блізкасць нашых моў. Акрамя таго, неаднаразова ў межах сусветнай лінгвістыкі праводзіліся даследаванні на падставе звестак лексікастатыстыкі і глотахраналогіі, якія спрабавалі высветліць ступень узаемнай блізкасці роднасных моў, і некаторыя з іх дэманструюць вельмі высокія каэфіцыенты і паказчыкі адносна роднаснасці сербскай і беларускай моў. Падобныя канцэпцыі можна лічыць, хутчэй, гіпотэзамі, але як дадатковы аргумент іх можна прыняць. Нягледзячы на гэта, трэба падкрэсліць, што на сучасным этапе сербам і беларусам цяжка разумець адзін аднаго без перакладчыка, асабліва ў вусных зносінах. Існуе своеасаблівы стэрэатып: нічога вучыць не трэба, «я і так усё зразумею». Але паўнавартасна функцыянаваць у сербскім асяроддзі магчыма толькі тады, калі вы ведаеце сербскую мову.

Лепей зразумець сербаў дапамагае наша двухмоўе. У арсенале беларуса больш лексічны запас, таму пры размове знойдзецца больш слоў агульнага паходжання. Таксама сербы часта заўважаюць, што вымаўленне беларусаў адрозніваецца ад гучання сербскай мовы, калі на ёй гавораць расіяне: прычына гэтага, сярод іншага, у тым, што наш білінгвізм прапануе больш фанетычных інструментарый і дазваляе лягчэй прызвычаіцца да сербскага вымаўлення.

**Праваслаўная вера**, безумоўна, аб'ядноўвае два народы. Усходняе хрысціянства заклала аснову для фарміравання нашых культур. Многія кнігі прыходзілі да нас праз сербскія спісы і пераклады. Праваслаўе і на сучасным этапе фарміруе агульны погляд нашых народаў на жыццё, сваё месца ў ім, сэнс існавання і перспектывы. Мне падаецца, што вера для сербаў — вельмі істотны элемент не толькі светапогляду як такога, але і нацыянальнай ідэнтычнасці. Серб — значыць праваслаўны. Карані гэтага ў далёкім мінулым, і яны добра прасочваюцца ў фальклоры — эпічнай паэзіі, праламляюцца праз косаўскі запавет, адлюстроўваюцца ў сярэднявечнай літаратуры (у першую чаргу звязанай з імёнамі Нэманічаў і святым Саваю ў прыватнасці). Мабыць, з-за таго, што ХХ стагоддзе ў Югаславіі было крыху больш «лаяльным» да рэлігіі, чым у СССР (хоць таксама нялёгкім!), вера захавалася ў душах большасці сербаў, у тым ліку і сярод моладзі. Канешне, богаслужэбная практыка Сербскай праваслаўнай царквы шмат у чым адрозніваецца ад звыклай нам, за чым вельмі цікава назіраць, наведваючы набажэнствы. Але гэта дробязі, а аснова ў нас, безумоўна, адна.

**Менталітэт** наш вельмі падобны: у нас адны каштоўнасці. А вось у дробязях зноў шмат рознага. Але, як мне падаецца, у гэтым і ёсць сакрэт прыцягнення: агульны «падмурак» з фундаментальных прынцыпаў, але зусім розныя абалонкі — характар, тэмперамент, звычкі.

Што цікавіла людзей, пра што яны марылі і клапаціліся ў мінулым і сучаснасці, можна прасачыць праз матывы, архетыповыя вобразы ў літаратуры. Тут, як заўсёды, можна знайсці шмат агульнага і адрознага. У прыгожым пісьменстве сербаў і беларусаў мяне сёння больш за ўсё цікавіць сыходжанні ў бачанні сябе як народа памежжа. У сербаў гэта выявілася больш яскрава, асабліва пасля завяршэння балючага працэсу распаду Югаславіі, але ж і задоўга да гэтага. Аднак і мы на працягу гістарычнага развіцця заўсёды трымалі ў свядомасці тое, што жывём паміж Захадам і Усходам, і гэта абумоўлівае наша светаўспрыманне і спецыфіку мастацкай творчасці.

**Адчуванне сувязі** нашых культур у жыхароў сучаснай Сербіі, несумненна, ёсць, прычым у дзвюх праекцыях. Па-першае (і гэта дамінуе ў гістарычнай перспектыве), у агульным усходнеславянскім кантэксце. Па-другое, можна казаць і пра сувязь менавіта з сучаснымі беларусамі. Сербы памятаюць нашу падтрымку падчас бамбёжкі 1999 года, цэняць наша разуменне па пытанні Косава і Метохіі — як на ўзроўні дзяржаўных дзеячаў, так і ў сэрцах беларусаў, якія ўсведамляюць культурнае, духоўнае значэнне косаўскай зямлі і яе святынь для кожнага серба.



Фота Вольгі Мядзведзевай.

*Мост у Бялградзе.*

На жаль, у Сербіі пра нас ведаюць пакуль няшмат, але гэта не прычына для таго, каб крыўдзіцца: беларусы таксама недастаткова дасведчаныя ў гісторыі Сербіі і яе вельмі багатай культуры. Тым не менш знакамітыя беларусы нярэдка фігуруюць у вузкаспецыяльных дыскурсах: філолагі адзначаюць нашых пісьменнікаў, у царкоўных колах шануюць беларускіх святых, заўзятары ведаюць нашых спартсменаў, падтрымліваюць беларускія каманды і г. д.

З упэўненасцю можна казаць, што да нашай краіны і нашага народа ў Сербіі ставяцца вельмі добра. Паміж намі няма ніякіх нявырашаных пытанняў, гістарычных дылем, ніякай перадузятасці, нязведзеных гістарычных рахункаў. З аднаго боку, нас успрымаюць як братэрскі народ, з другога — няшмат пра нас ведаюць. Паміж намі засталося многа нязведанага і неадкрытага, і ў выніку можна канстатаваць вялікую цікаўнасць да нас з боку сучасных сербаў. Тут сапраўды цікавяцца нашай літаратурай, ахвотна прымаюць пераклады ў перыядычных выданнях (гэта я бачыла на прыкладзе студэнтаў філалагічнага факультэта, якія ўжо перакладалі і публікавалі творы нашых паэтаў і пісьменнікаў).

Шчырае жаданне пазнаёміцца з нашай культурай выяўлялася на мерапрыемствах, прысвечаных Беларусі, якія тут праводзіліся ў перыяд майго знаходжання ў Сербіі. Калі на факультэце праходзіў вечар беларускай культуры, частка гледачоў вымушана была стаяць у калідоры, бо сабралася зашмат людзей: мы нават не маглі дапусціць думку, што будзе такі аншлаг.

У дадзены момант я выкладаю на філалагічным факультэце Бялградскага ўніверсітэта беларускую мову як дысцыпліну па выбары, таму магу сведчыць, што студэнты таксама цікавяцца нашай культурай. Зразумела, рынак працы дыктуе свае ўмовы, і моладзь часцей схіляецца да выбару англійскай, нямецкай і іншых папулярных еўрапейскіх моў. Вялікі інтарэс сярод студэнтаў да мовы рускай, але таксама штогод набіраюцца групы па вывучэнні беларускай мовы. Групы невялікія, аднак працаваць у іх вельмі камфортна: беларуская мова для гэтых студэнтаў не галоўная дысцыпліна, але яны старанна вучацца, з радасцю ўдзельнічаюць у арганізацыі беларуска-сербскіх мерапрыемстваў і ўрэшце становяцца своеасаблівымі культурнымі пасланнікамі, якія пашыраюць дасведчанасць пра нас у замежнай краіне.

Але **інтарэс да нашай культуры** — не толькі і не столькі апрыёрны факт, колькі вынік актыўнай, цяжкай працы па развіцці натуральных, заканамерных, прадвызначаных імпульсаў да супрацоўніцтва. Для гэтага мы ўсе мусім старанна працаваць — будаўніцтву мастоў паміж нашымі народамі варта прысвяціць гады, дзесяцігоддзі ці нават цэлае жыццё.

**Ганна НАВУМАВА**

## Уладзімір ЧУШАЎ:

# «НАМ ЁСЦЬ ШТО ПАКАЗАЦЬ У СЕРБІІ»

**Славянскае пісьменства, праваслаўе, гістарычныя карані… Вось тое, што дакладна зблізіла Беларусь і Сербію ва ўсе часы! Ці не згублены гэты гуманітарны складнік у стасунках дзвюх краін у іх найноўшай гісторыі? Як паўплывала трансфармаванне дзяржаўнасці і тэрыторый на лёс славянскага братэрства ў двухбаковым фармаце? Госць «ЛіМа» — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Сербія Уладзімір Чушаў, якога рэдакцыя запрасіла да размовы на гэтыя тэмы.**

**— Уладзімір Мікалаевіч, як вы ацэньваеце стан беларуска-сербскіх стасункаў у сферы культуры і найперш літаратуры на сёння — і на міждзяржаўным узроўні, і на ўзроўні прыватных ініцыятыў?**

— Як Пасол Беларусі ў Сербіі ў першую чаргу адзначу, што беларуска-сербскія адносіны вельмі даўнія і будуюцца на трывалым падмурку духоўных, культурных і гістарычных сувязей. Не ўсе, верагодна, ведаюць, што ў XVIII стагоддзі на тэрыторыі сучаснай Беларусі праславіўся выхадзец з Сербіі граф Сімяон Зорыч — расійскі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант, кавалер некалькіх замежных ордэнаў. У 1778 годзе за службу С. Зорыч атрымаў ва ўласнасць горад Шклоў, дзе заснаваў дваранскае вучылішча, пасля ператворанае ў кадэцкі корпус, адкрыў тэатр з балетнай і музычнай школамі, а таксама шаўкаткацкую, канатную, гарбарную і суконную мануфактуры. Балетная трупа стала асновай для стварэння Марыінскага імператарскага тэатра ў Санкт-Пецярбургу. Некалькі гадоў таму ў Шклове быў адкрыты помнік С. Зорычу.

У гісторыю барацьбы балканскіх славян супраць асманскага прыгнёту навечна ўпісана прозвішча генерала беларускага паходжання Міхаіла Чарняева (нарадзіўся ў в.Тубышкі Круглянскага раёна), які стаяў на чале сербскіх войскаў у вайне з туркамі 1876 года. Сербскія карані таксама меў першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Пічэта.

Цікава, што факт наяўнасці актыўных кантактаў паміж беларусамі і сербамі знаходзіць пацвярджэнне і ў беларускім фальклоры. Так, на паўночным Палессі да цяперашняга часу танчаць «Сербіянку», або «Сербіяначку». Ёсць і народная песня: «Сербіяне сена косяць, сербіянкі жыта жнуць». Імя беларускай асветніцы Еўфрасінні Полацкай праслаўляе і Сербская праваслаўная царква (5 чэрвеня па грыгарыянскім календары).

Пачатак узаемадзеянню ў сферы культуры на сучасным этапе пакладзены ў 1996 годзе, калі Беларусь і тагачасная Югаславія падпісалі дамову аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі, культуры і спорту. За гэты час спектр нашага двухбаковага культурнага, у тым ліку і літаратурнага, супрацоўніцтва значна пашырыўся. Дагаворна-прававая база двухбаковых адносін паміж Беларуссю і Сербіяй рэгулюецца больш як 40 дзеючымі міждзяржаўнымі, міжурадавымі і міжведамаснымі пагадненнямі, у тым ліку ў сферы культуры і інфармацыі. Рэгулярным стаў абмен дэлегацыямі не толькі дзелавых колаў, але і прадстаўнікоў навуковых, творчых і грамадскіх аб'яднанняў Беларусі і Сербіі.

Найважнейшы складнік культурнай ідэнтычнасці любой нацыі — яе нацыянальная мова. Складана ўявіць існаванне любой культуры без мовы! У гэтым кірунку для лепшага ўзаемнага разумення вельмі важна пашыраць вывучэнне беларускай і сербскай моў у навучальных установах дзвюх краін. У значнай меры дзякуючы высілкам Пасольства і садзейнічанню кіраўніцтва Універсітэта ў Бялградзе з 2017 навучальнага года на філалагічным факультэце прадмет «Беларуская мова» павысіць свой статус да другой славянскай мовы», што было



пацверджана і падчас нядаўняга візіту рэктара БДУ.

Паміж нашымі народамі няма супярэчнасцей, што маглі б перашкодзіць дынамічнаму і паступальнаму развіццю беларуска-сербскіх адносін па ўсім спектры двухбаковага і — што асабліва важна — узаемавыгаднага ўзаемадзеяння, у тым ліку ў сферах культуры і літаратуры.

**— Наша нацыянальная культура ўвогуле цікавая сербскаму боку? Што вядома грамадскасці пра беларускую літаратуру, сучасных беларускіх пісьменнікаў?**

— У сваёй працы мы найперш зыходзім з таго, што культура Беларусі ўвасабляе ўніверсальныя каштоўнасці і з'яўляецца неад'емнай часткай агульнаеўрапейскай культуры. І, канечне ж, зацікаўленыя ў тым, каб у Сербіі Беларусь ведалі як развітую культурную еўрапейскую краіну. Гэтая запамінальная выява Беларусі фарміруецца ў вялікай ступені з дапамогай беларускай літаратуры, гісторыі, музыкі, жывапісу, кіно... А паказаць ёсць што! Вось падставы для таго, каб наладжваць цесныя кантакты ва ўсіх сферах культурнага жыцця, весці паўнавартасны зацікаўлены дыялог. Пасольства ўсяляк садзейнічае правядзенню ў Сербіі мерапрыемстваў рознай жанравай скіраванасці: выставак, выступленняў музычных і тэатральных калектываў, арганізацыі Дзён кіно, прэзентацый айчынных кніг…

Работы беларускіх аўтараў, як правіла, прадстаўленыя на Міжнароднай выстаўцы каліграфіі «Культура кірыліцы» у Бялградзе. Музычныя таленты Беларусі бяруць удзел у фэстах класічнай і духоўнай музыкі, фэстах для дзяцей у сербскай сталіцы. Дарэчы, зусім нядаўна ў Бялградзе завяршыўся 47-ы Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці «Радасць Еўропы», дзе так яскрава заявіў пра сябе ансамбль сучаснай харэаграфіі «Натхненне» Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Міністэрства адукацыі Беларусі. Беларускі дзіцячы калектыў разам з прадстаўнікамі Македоніі выступіў у прамым эфіры дзяржаўнага сербскага тэлеканала РТС-1, чым «падагрэў» цікавасць да сябе з боку сербскіх гледачоў. Дзяцей прыняў Прэзідэнт Сербіі!

І з творамі нашых выбітных майстроў слова ў Сербіі знаёмыя. На сербскай мове выйшла кніга У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха», цёпла сустрэтая сербскімі чытачамі. Варта ўзгадаць «Анталогію беларускай паэзіі», перакладзеную на сербскую мову пры падтрымцы Пасольства: чытачу прадстаўлены 64 аўтары. У найбліжэйшы час у Парламенце Сербіі і на філалагічным факультэце Універсітэта ў Бялградзе адбудзецца прэзентацыя кнігі «Беларусы пра Сербію і Югаславію», укладзенай прафесарам БДУ, старшынёй Таварыства беларуска-сербскай дружбы Іванам Аляксеевічам Чаротам. За шматгранную дзейнасць па развіцці беларуска-сербскіх сувязей І. А. Чарота ўганараваны ордэнам Святога Савы Сербскай праваслаўнай царквы, а таксама медалём Сербіі «За заслугі». У Беларусі ў апошнія гады выдадзена некалькі кніг сербскіх аўтараў у яго перакладзе.

Істотны ўнёсак у знаёмства сербаў з беларускай літаратурай робіць Міністэрства інфармацыі Беларусі, а таксама беларускія выдавецтвы, якія традыцыйна ўдзельнічаюць у найбуйнейшай на Балканах міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Бялградзе. Ужо 23 кастрычніка — у 61-ы раз — яна гасцінна прыме не толькі майстроў выдавецкай справы і літаратараў, але і аматараў кнігі.

І гэта толькі некаторыя прыклады.

**— Тады — пра перспектывы супрацоўніцтва ў гэтым кірунку. Ці ёсць новыя праекты, актуальныя для абодвух бакоў?**

— Пасольства, сумесна з рэспубліканскімі органамі дзяржкіравання, грамадскімі аб'яднаннямі і творчымі саюзамі Беларусі, шмат працуе над тым, каб у Сербіі ведалі пра лепшыя ўзоры беларускай культуры і літаратуры ў прыватнасці. Мы выступаем за пашырэнне гарызонтаў культурнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Сербіяй, за ўзаемаўзбагачэнне культур і інтэграцыю ў сусветную культурную прастору, пры гэтым паважаючы звычаі, нацыянальныя традыцыі і асаблівасці кожнага з бакоў. У цэлым мне як Паслу Беларусі ў Сербіі ўяўляецца, што супрацоўніцтва нашых краін ва ўсіх сферах, у тым ліку культуры і літаратуры, мае вельмі добрыя перспектывы!

Гэтымі днямі на сцэне Народнага тэатра ў Бялградзе і ў горадзе Нові Сад — канцэрт сумеснага беларуска-сербскага маладзёжнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам беларускага дырыжора Вячаслава Бартноўскага і сербскага дырыжора Джорджэ Паўлавіча. Выступленні прымеркаваныя да Дня вызвалення гарадоў ад фашысцкіх захопнікаў у гады Другой сусветнай вайны.

У лістападзе — зноў жа ў горадзе Нові Сад — запланавана фотавыстаўка, прысвечаная ўдзелу Беларусі ў Першай сусветнай вайне. Выстаўка Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі пройдзе пад апекай Старшыні Урада Аўтаномнага краю Ваяводзіна. Упэўнены, што грамадскасць яе заўважыць.

У снежні ў Мастацкай галерэі М. А. Савіцкага ў Мінску чакаецца адкрыццё міжнароднай выстаўкі сучаснага мастацтва «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока», дзе будуць прадстаўленыя работы аднаго з самых вядомых сучасных мастакоў Сербіі Радавана Трнаўца, творы якога знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях у Аўстраліі, Венгрыі, Італіі, Канадзе, Расіі, ЗША, Францыі, Швецыі, Швейцарыі…

Пасольства сумесна з Народнай бібліятэкай Сербіі мае на мэце зладзіць акцыю «100 кніг Беларусі для Сербіі». Працуем і над тым, каб годна арганізаваць да 500-годдзя беларускага кнігавыдання перадачу сербскаму боку камплекта факсімільных выданняў кніг беларускага першадрукара Францыска Скарыны.

**— Дзякуй, Уладзімір Мікалаевіч, за грунтоўную размову, за цікавыя факты. Поспехаў вам у працы на карысць нашай краіны!**

Гутарыла Інеса ПЕТРУСЕВІЧ

# ДЗВЕ ДУШЫ



Сербскі пісьменнік і дзеяч культуры Драган Лакічавіч даўно трымае актыўную літаратурную і культурную сувязь з Беларуссю. Неаднойчы ён бываў у Мінску, прыязджаў, каб паўдзельнічаць у міжнародных літаратурных круглых сталах. Карэспандэнту «ЛіМа» сербскі пісьменнік распавёў пра асабістыя ўражанні і пачуцці, якія звязваюць яго з Беларуссю, пра тое, наколькі беларуская літаратура папулярная на тэрыторыі Сербіі:

— Беларусь і яе жыхары для Сербіі з'яўляюцца брацкай дзяржавай. Сербская і беларуская мовы звязаны каранямі агульнага паходжання. З Беларуссю, акрамя палітычных і культурных стасункаў, звязвае нас і праваслаўная вера. Калі я быў на святочнай літургіі ў Благавешчанскім манастыры пад Мінскам, людзі, якіх я ўбачыў там, былі вельмі падобныя па паводзінах і культуры на жыхароў Сербіі і Чарнагорыі. Тады я адчуў сябе быццам бы на радзіме. Я вельмі люблю беларускія пейзажы і ландшафты, Беларусь выглядае як мара майго дзяцінства.

Беларуская літаратура ў Сербіі не вельмі вядомая вялікай аўдыторыі людзей, хоць беларускія аўтары цікавыя сваімі тэмамі. У большасці беларуская нацыянальная літаратура вядомая сербам паэзіяй.

Дзякуючы намаганням двух таленавітых людзей — прафесараў Івана Чароты і Міядрага Сібіновіча — у нас ёсць рэпрэзэнтатыўная падборка «Анталогія беларускай паэзіі» на сербскай мове, якая мае два выданні. Для мяне было вялікім задавальненнем быць рэдактарам другога пашыранага выдання гэтай кнігі.

Калісьці на югаслаўскім фестывалі «Стружскія вечары паэзіі» я сустрэўся з беларускім паэтам Максімам Танкам, які ўваходзіў у склад савецкай дэлегацыі. Атрымалася так, што мы з ім разгаварыліся, і ён расказаў мне, што ўжо апублікаваў каля сарака кніг. Я тады быў настолькі здзіўлены, мне здавалася гэта недасяжным і чароўным. На жаль, сёння Сербія занадта мала кантактуе з пісьменнікамі іншых краін свету, у тым ліку і беларускімі. Мае асабістыя кантакты ў Беларусі — гэта супрацоўніцтва з Выдавецкім домам «Звязда» і сяброўства з прафесарам Іванам Чаротам, які мноства кніг сербскіх аўтараў пераклаў на беларускую і рускую мовы. Ад яго, у большасці, я ведаю пра падзеі ў сучаснай беларускай літаратуры.

Беларусь вельмі падобная да Сербіі. Нашы душы блізкія, гісторыя падобная. Пабываўшы ў музеі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску, я ўбачыў вобразы майго дзяцінства, успомніў апавяданні, побыт маіх бацькоў, таму Беларусь мне здаецца вельмі блізкай. У сучасных геапалітычных рэаліях Беларусь і Сербія павінны трымацца разам для захавання самабытнасці, традыцый і падтрымання праваслаўнага духу нашых краін.

Вікторыя АСКЕРА

# Краіна непакорлівых

## (нататкі натхнёнага Сербіяй)

**Каларытная кухня (з перавагай кававых рытуалаў) і чароўнасць горных масіваў, маляўнічых рэк і азёр, уражлівых каньёнаў, старажытных збудаванняў, сведак вялікіх падзей — усё гэта пра Сербію. Чалавек, які не раз ездзіў у гэтую краіну, шчыра захапляючыся менталітэтам яе жыхароў, асаблівасцямі культуры і прыродных ландшафтаў, — дацэнт кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ Мікіта Супрунчук. Сербская мова вельмі спадабалася яму яшчэ ў школе. Ён так пранікся, што зрабіў яе вывучэнне сваёй прафесіяй, а потым адправіўся і ў падарожжа.**

«У Сербію я трапіў у першы раз, калі яна яшчэ была ў складзе Югаславіі. Ішоў 1999-ы год. З тых часоў некалькі разоў, з інтэрвалам прыкладна ў пяцьшэсць гадоў, уважліва назіраю за пераменамі ў гэтай краіне. Але кожны раз шчыра захапляюся рэспублікай, якая ў цяжкія часы, прайшоўшы скрозь столькі войнаў і канфліктаў, існуючы ў атмасферы проціборства нацыянальнасцяў і рэлігій, здолела захаваць аптымізм, радасны погляд на жыццё, веру ў паляпшэнні і перамены. З гэтай прычыны нам, беларусам, варта павучыцца ў сербаў», — дзеліцца Мікіта Супрунчук.

Сербы яшчэ і вельмі творчыя, зацікаўленыя ва ўсіх пачынаннях. Яны паспяваюць у розных сферах: культуры, эканоміцы і асабліва спорце. Чаго вартыя шэдэўры рэжысёра Эміра Кустурыцы, кампазітара Горана Брэгавіча і пісьменніка Міларада Павіча, дасягненні тэнісіста Новака Джокавіча? А колькі імёнаў нам мала вядомыя?

«Жыхары сучаснай рэспублікі, нягледзячы на эканамічныя праблемы, цяжкасці з працай, візамі, санкцыямі, бамбёжкі і негатыўныя фактары, якія дасталіся ад эпохі камунізму, заўсёды рады бачыць адзін аднаго — прычым, як землякоў, так і замежнікаў», — заўважае філолаг. У сербаў так прынята: не падзяляць людзей па нацыях і сацыяльных прыкметах.

На чым грунтуецца іх аптымізм? Гэта застаецца для яго загадкай. Сербія пасля распаду Югаславіі ў 2006 годзе страціла выхад да мора, але яе прырода не стала менш прывабнай. «Адна з галоўных вартасцей — горы. Лясістыя, у больш цёплай паласе, дзе можна шпацыраваць пешшу, адпачываць душой, любавацца прыгажосцю нацыянальных паркаў. І больш суровыя, з характарам, што асабліва прыгожыя зімой і складаюць частку папулярных курортаў», — дзеліцца Мікіта Супрунчук. Горных масіваў у Сербіі больш за 15, многія з іх маюць вышыню каля дзвюх тысяч метраў.

Сербія, па словах філолага, краіна крэпасцяў і храмаў, прычым, з розных часоў: ад праўлення Рымскай імперыі да каларытнага гатычнага XIX стагоддзя. І яшчэ цікавы факт: мяккі клімат краіны не адбіваецца на характары яе жыхароў. Сербы, на думку Мікіты Супрунчука, даволі імпульсіўныя і эмацыянальныя. І гэта добра, бо могуць пастаяць за сябе. Народ з гонарам, непакорлівы.

Рымскі перыяд, дарэчы, пакінуў вялікі след на асаблівасцях развіцця краіны. Яшчэ ў другім стагоддзі да нашай эры рымляне сталі заваёўваць новыя тэрыторыі. Там, у заснаванай правінцыі Мезія, і размясцілася сучасная Сербія. Кажуць, што на яе тэрыторыі нарадзілася каля 20 рымскіх кіраўнікоў, у тым ліку Канстанцін Вялікі (менавіта ён зрабіў Рым хрысціянскім аплотам і перанёс сталіцу ў Візантыю), Грацыян і Максімiян Геркулій.

Што агульнага ў дзвюх нацый, беларускай і сербскай? Абедзве прайшлі нялёгкі гістарычны шлях. У свой час Сербія была пад уладай Візантыі, Асманскай і Аўстрыйскай імперый. Паўстанні і войны праносіліся па гэтай зямлі, як і па беларускай, але абодва народы выстаялі, захавалі самасвядомасць.



*Храм святога Савы ў Бялградзе.*

**Марыя ВОЙЦІК**

# А ўсім карысць прынесці…

**Кніга, укладзеная і пракаментаваная прафесарам Іванам Чаротам, выйшла зусім невялікім накладам (у прыватным выдавецтве «Белпринт») — усяго 99 экзэмпляраў. Назва ў яе досыць акрэсленая — «Беларусы пра Сербію і Югаславію = Белорусы о Сербии и Югославии».**

У зборніку анталагічнага характару — выказванні, мастацкія і публіцыстычныя творы, прысвечаныя Сербіі, сербскаму народу. Пачатак пакладзены вершам Максіма Багдановіча «Песні. Сербская (“Хто там едзе па Касову полю?”)». Затым ідуць «Пісьмы з Сэрбіі (Ад нашага карэспандэнта)» Міхаіла Запольскага, надрукаваныя ў беларускіх газетах у першай палове 1920-х гг. Ёсць у эпісталярна-публіцыстычным тэксце беларускага карэспандэнта і такія словы: «Аб сабе ж скажу, што я надта рад, што мне давялося пабыць у Сэрбіі, пазнаёміцца з сэрбскім народам, з яго песняю і жыццём. Тутака ёсць на што паглядзець, ёсць чаму павучыцца; тутака абібок робіцца працавітым, а заможны перастае нос задзіраць…» Большасць аўтараў па-свойму ўнікальнай кнігі — пісьменнікі: Янка Купала, Міхась Калачынскі, Анатоль Вялюгін, Янка Брыль, Максім Танк, Усевалад Краўчанка, Пімен Панчанка, Іван Шамякін, Еўдакія Лось, Леанід Прокша, Генадзь Бураўкін, Анатоль Грачанікаў, Янка Сіпакоў, Васіль Зуёнак, Уладзімір Някляеў, Генадзь Пашкоў, Ніл Гілевіч, Алесь Разанаў, Міхась Пазнякоў, Мікола Мятліцкі…

Многія творы — не проста адлюстраванні, адбіткі цікаўнасці турыстычнага характару ці нават цікаўнасці адкрывальнікаў новай, невядомай дагэтуль краіны, незнаёмага народа. У вершах і прозе — суперажыванне лёсу гераічнай старонкі, чыё жыццё і цяпер поўнае драматычных калізій. «Сэрца разрываецца на часткі: / Быць такое ў свеце не павінна! / Курчыцца пад бомбамі ў няшчасці / Братняя пакутная краіна. / Курчыцца пад воплескі Еўропы / У парыве самавітай згоды. / Выйшлі міратворцы-далакопы / Абвяшчаць прытворны міф Свабоды…» (Мікола Мятліцкі «Зболены верш (Югаславія, 1999)»). Альбо вось гэтыя радкі — з верша народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «Сербскаму паэту і пабраціму паэту Мачылу Джэркавічу» (напісаны 25 сакавіка 1999 года): «Я з табой! Пачуй мяне, Мамчыла! / Я з табой, з табой, мой любы брат! / Што было і ў думках немагчыма — / Стала явай пяць хвілін назад. / Памутнеўшы розумам ад шалу, / Рынулася зборня чорных зграй / Руйнаваць суздром тваю дзяржаву, / Паліваць агнём твой родны край. / Што ім трэба там — што скопам цэлым / Наляцелі? Хто іх клікаў-зваў? / Трэба ім, каб ты пад іх прыцэлам / На калені стаў»…

Анталогія мастацкіх і публіцыстычных прызнанняў у любові, шчырым стаўленні да братняга славянскага народа паказвае ўражлівы прыклад. Найперш у тым, каб такога ж кшталту зрабіць, уклaсці зборнікі пра наша ўсебеларускае стаўленне да іншых славянскіх народаў, да іншых краін: Расіі, Украіны, Балгарыі, Славакіі, Чэхіі… Іх добразычлівае святло, іх памкненні да супольнасці, еднасці — аснова, трывалы грунт міралюбства, якое сцвярджаецца выразна сённяшняй штодзённай палітыкай Беларусі, асабіста нашага прэзідэнта. Невыпадкова ў пасляслоўі да кнігі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Сербія Уладзімір Чушаў піша наступнае: «…у Сербіі любяць Беларусь, беларусаў і Аляксандра Лукашэнку, часта яго прыводзяць у прыклад як дзяржаўніка. Наш прэзідэнт карыстаецца папулярнасцю і павагай сербскага народа, які помніць і цэніць смелы і мужны ўчынак беларускага лідара — яго візіт у Бялград у красавіку 1999 года ў час агрэсіі НАТА супраць Саюзнай Рэспублікі Югаславіі, а таксама аказаную тады падтрымку і гуманітарную дапамогу. Беларусь працягнула руку дапамогі Сербіі і ў бядзе, выкліканай нябачнымі дагэтуль паводкамі ў маі 2014 года».




У часопісе «Сербскі летапіс» у 1825 годзе была надрукавана асветніцкая праграма новага выдання. І сярод іншага — наступныя словы: «…яго характар няхай будзе такі: нікога не пакрыўдзіць, а ўсім як мага болей карысці прынесці». Доктар філалагічных навук, вядомы ў Беларусі і за яе межамі сербіст, вучоны-даследчык, маштабы працы якога ўражваюць, ды і ўсю беларускую літаратуразнаўчую навуку ўзвышаюць, Іван Аляксеевіч Чарота прарабіў неверагодна вялікую справу. Ён перагарнуў старонкі многіх аўтарскіх кніг, зазірнуў на старонкі літаратурна-мастацкіх і грамадска-публіцыстычных выданняў, каб сведчанні беларусаў пра Сербію сабраць як мага пауней. Каб анталогія дружбы, анталогія любові да сербаў і Сербіі на стагоддзі захавала беларускае стаўленне да светлага народа і светлай, добразычлівай краіны, краіны-сябра…

**Сяргей ШЫЧКО**

# Неўміручасць рамана, безліч прэмій, саюзы перакладчыкаў

## і іншыя дзівосы сербскай літаратуры —

**у расповедзе Івана Чароты — літаратуразнаўцы, перакладчыка, прафесара, акадэміка Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў.**



**— Беларуская проза ў шырокім свеце асацыюецца з Васілём Быкавым. У паэзіі такой сімвалічнай постаццю выступае Рыгор Барадулін, у драматургіі найбольшай папулярнасці дасягнуў Андрэй Макаёнак. Як гэтая трыяда выглядае ў сербскім варыянце?**

— Я не зусім згодны з вылучэннем названых пісьменнікаў на ролю «прадстаўнікоў». У Сербіі Быкаў успрымаецца як прадстаўнік савецкай рускай літаратуры, а Барадуліна і Макаёнка мала хто ведае. Калі ж вы хочаце, каб я назваў тройку найбольш значных прадстаўнікоў сербскай літаратуры канца XIX — пачатку XX стст., то ў мой пералік не патрапіць вядомы Міларад Павіч з гучнапраслаўленым «Хазарскім слоўнікам». А скажу я пра магутнага празаіка эпічнага складу і адпаведнага лёсу — Добрыцу Чосіча, выключна яркага і адначасова глыбакадумнага паэта Міядрага Паўлавіча. Праўда, з драматургаў мушу згадаць Душана Кавачавіча, які досыць вядомы ў Расіі й некаторых іншых былых савецкіх рэспубліках, а ў сябе на радзіме з'яўляўся, можна сказаць, «манапалістам» тэатральных рэпертуараў на працягу 1980 — 90-х гадоў.

**— Дзённікавыя нататкі, абразкі, навела і аповед… Заходнееўрапейская літаратура адышла ад буйной празаічнай формы, беларуская апошнім часам — таксама; адзінкавая з'ява цяпер і паэма. Сербскія пісьменнікі гэтаксама падпалі пад уплыў хуткага тэмпу часу?**

— Дзякуй богу, сербская літаратура ўсё ж такі засталася менш падлеглай уплывам заходнееўрапейскім, і ў ёй па-ранейшаму вызначальным празаічным жанрам з'яўляецца раман. І, як ні дзіўна гэта для нас, беларусаў, у Сербіі раман усё яшчэ мае дастаткова колькаснае, шырокае кола чытачоў. Я нездарма прыгадаў нядаўна спачылага раманіста Чосіча, паколькі нават апошнія яго раманы маюць па некалькі выданняў. А нароўні з Чосічам шматтысячнымі тыражамі выдаюцца таксама раманныя жыцці (альбо жыційныя раманы, малаістотна, як іх называць) Ліляны Хаб'янавіч Джуравіч, да якой падчас мінулагодняга і пазамінулагодняга кніжных кірмашоў не перапыняліся штодзённыя чэргі па аўтографы. І толькі за гэтыя дні былі прададзеныя дзясяткі тысяч экземпляраў яе кніг. Гэта ўсё адбывалася на маіх вачах, а потым я ўдакладняў лічбы, таму адказна сведчу. У любым выпадку, няцяжка назваць дзясятак сербскіх раманістаў, сапраўды папулярных, якіх многа выдаюць і рэальна многія чытаюць. Што ж да сучаснай паэзіі, то жанр паэмы ў ёй не стаў дамінуючым, хоць і з'явай адзінкавай яго назваць нельга. Тут, відаць, існуе нейкі баланс, абумоўлены іманентнымі заканамернасцямі развіцця і жанру, і паэзіі наогул, а таксама і чытацкімі прыхільнасцямі.

**— Усе літаратурныя часопісы Беларусі маюць аднолькавую структуру: празаічная і паэтычная часткі, публіцыстыка і крытыка. Сербскі часопіс будуецца па той жа схеме? Ці, быць можа, існуюць профільныя выданні? У нас, да прыкладу, не маюць сваёй «друкаванай плошчы» драматургі…**

— Сітуацыя з літаратурнымі часопісамі Сербіі мае адпаведную тыпалогію з тым, што адбываецца з падобнымі выданнямі ва ўсім свеце, у Беларусі таксама. Праўда, я не ведаю ніводнага сербскага літаратурнага часопіса, які фінансуецца дзяржавай. Між тым па-ранейшаму выдаецца іх многа. Нават у зусім невялікіх населеных пунктах. Структура ўласна літаратурных часопісаў, як правіла, такая ж самая. Хіба што больш увагі надаецца крытыцы, літаратура- і мастацтвазнаўству. А яшчэ — увесь час трымаецца кантэкст шырокі, не толькі айчынны. Вяртаючыся да актуальна-ўніверсальных пытанняў, звязаных з тыражамі, — яны, як правіла, ніжэйшыя за нашы. Як мне здаецца, літаратурныя перыядычныя выданні заўжды і ўсюды разлічваліся на «свае» колы, якія паступова самім канкрэтным выданнем ствараліся і трымаліся ў «полі прыцягнення». Гэта значыць, заўжды патрэбныя намаганні, каб чытача ўтрымаць, рэагуючы на змены патрэб, густаў і г.д. Разумею, што сітуацыю ва ўсім свеце рэзка змяніў інтэрнэт. Але не да такой ступені, каб часопісы пазбавіліся сапраўдных сваіх прыхільнікаў. Зрэшты, нармальна, калі і малы працэнт насельніцтва складае гэтую катэгорыю. Хіба ў Расіі XIX стагоддзя чытачоў было больш? А на ваша пытанне наконт профільных выданняў магу адказаць, узяўшы зусім свежы прыклад: два тыдні таму па дарозе ў Герцагавіну я атрымаў часопіс «Гуслі». Яго канцэпцыя не звязаная з этнаграфічнай архаікай, гэта орган сучасных сербскіх гусляроў. Тыраж яго — тысяча экземпляраў… Пры насельніцтве Сербіі прыкладна такім жа, як у Беларусі… Між тым, калі параўноўваць тыражы сербскай літаратурнай газеты «Књижевне новине» і «ЛіМа», то перавага ў нас.

**— Што значыць для сербскага пісьменніка літаратурная прэмія? Як у Сербіі адзначаюць найлепшых, найцікавейшых, актуальных?**

— Літаратурных прэмій у Сербіі вельмі многа. Можа, нават занадта. Яны самыя розныя і па статусе (па тым, хто іх засноўвае і прысуджае), і па прэстыжы, і па матэрыяльна-грашовай вартасці. Дзяржаўныя сярод іх не дамінуюць. Большасць прэмій у галіне літаратуры прысуджаецца фондамі пісьменнікаў-класікаў (а існуюць фонды фактычна ўсіх класікаў). Значную вагу маюць прэміі перыядычных выданняў. Скажам, адна з самых прэстыжных у краіне прэмій за раман — гэта прэмія тыднёвіка «Недељне информативне новине» («Тыднёвыя інфармацыйныя навіны»). Пры ўсім гэтым лепшыя пісьменнікі, у рэшце рэшт, адзначаюцца пенсіямі, значна большымі за сярэднюю…

**— Нон-фікшн набыў і працягвае набываць папулярнасць у пісьменнікаў Еўропы (і не толькі). У Беларусі гэты від творчасці замацаваўся яшчэ й пасля прысуджэння леташняй Нобелеўскай прэміі. Сербскі аўтар: як ён глядзіць на такую «дакументалістыку»?**

— Пэўна, сказаць «за ўсю Адэсу», у дадзеным выпадку — за сербскага чытача наогул, я не магу. Па агульных маіх назіраннях, «дакументалістыка» нязменна карыстаецца попытам у самых розных катэгорый сербскай чытацкай публікі. Але тое, пра што вы гаворыце, сербы не ўспрымаюць як навіну-навізну, тым больш як нейкія "творчыя дасягненні", «мастацкія адкрыцці». Падобныя запісы сербы рабілі і публікавалі яшчэ ў часы Першай сусветнай вайны. Літаратура гэтага кшталту значнай увагай карысталася і пасля Другой сусветнай, якая была не толькі вызваленчай ад фашысцкіх інтэрвентаў, але і грамадзянскай. Вайна 1999 года, якую вялі краіны НАТА супраць СР Югаславіі, таксама знайшла разнастайнае адлюстраванне ў шматлікіх запісах, якія друкаваліся адразу пасля трагічных падзей і дагэтуль публікуюцца. Аднак тэматычна гэты від творчасці ў сербаў звязаны не толькі з войнамі. Дарэчы, на ім грунтуецца творчы прыём аповеду пра сябе, які цікава і плённа выкарыстоўвае празаік Драгаслаў Міхаілавіч у сваіх раманах і аповесцях, а таксама ў «нявыдуманым» творы «Голы востраў».

**— Калі паглядзець на перакладчыцкую справу, у Беларусі заўважныя два «кірункі»: творы з літаратур усходніх краін рэпрэзентуе Выдавецкі дом «Звязда»; англійскай, шведскай, польскай і іншых заходнееўрапейскіх літаратур — школа «Прайдзісвету». А як наладжаны працэс у сербскіх перакладчыкаў? Ці тут кожны — адзін у полі воін?**

— Сам непасрэдна ўключаны ў працэс беларуска-сербскага перакладу, я на працягу ўжо сарака гадоў сачу за тым, што адбывалася ў СФР Югаславіі, а цяпер — розных рэспубліках былой Югаславіі, у Сербіі — перш за ўсё. І мушу сказаць, што ў братоў-сербаў перакладчыцкая справа развіваецца непараўнальна лепш, чым у нас. Першае, на што варта звярнуць увагу, гэта арганізацыя справы перакладу і абароны правоў перакладчыка. У Сербіі здаўна ёсць два Саюзы перакладчыкаў: той, які аб'ядноўвае «трансляратараў»-адаптатараў мастацкай літаратуры, і другі, які ўключае прафесіяналаў перакладу ў спецыяльных сферах. Абедзве суполкі маюць свае часопісы. Другое: незалежна ад усіх перыпетый прафесійныя аб'яднанні забяспечваюць сваім членам гарантаваныя правы на прыстойныя ганарары — бягучы заробак і, адпаведна, пенсію.

Адпаведна, перакладчыкі самі зацікаўленыя ў тым, каб высочваць і «запускаць» дагэтуль невядомае, адметнае. Што праўда, і нам гэта неабходна ўлічваць, беларуская літаратура ў катэгорыю прыярытэтных перакладчыцкіх інтарэсаў не трапляла ніколі. Прычым справа не ў сербах. Калісьці я гэта ўжо расказваў: на міжнародным бялградскім форуме перакладчыкаў адзін калега выказаўся прыкладна так: «У сябе ў Швецыі я хутчэй знайду аматара паляцець на Венеру, чым таго, хто возьмецца перакладаць беларускую літаратуру». Не намнога лепшая сітуацыя і ў Сербіі, дзе нашу літаратуру трэба папулярызаваць мэтанакіравана і актыўна, укладаючы ў гэта як сілы, так і матэрыяльныя сродкі. Беларусістаў неабходна заахвочваць і падтрымліваць фінансава. Толькі на энтузіязме сур'ёзныя справы трымацца не могуць. Вельмі добра, што мы там знайшлі шчырага сябра — выдатнага вучонага-славіста і перакладчыка паэзіі — прафесара Міядрага Сібінавіча. Між іншым дагэтуль належным чынам не адзначылі. Цяпер вось з'явілася захопленая нашай паэзіяй выпускніца бялградскага філфака Даяна Лазаравіч. Яна надрукавала пераклады М. Танка, П. Броўкі, У. Караткевіча, на маю прапанову пераклала ўвесь «Вянок» Максіма Багдановіча… Але ж хтосьці павінен выдаць гэтую кніжку і, што называецца, «пакрыць выдаткі». Карацей кажучы, на папулярызацыю беларускай літаратуры ў Сербіі, як і наогул у замежжы, патрэбныя канкрэтныя гранты, а таксама і спецыяльныя прэміі.

**— Як можна апісаць стасункі сербскіх пісьменнікаў з крытыкамі: халодная вайна, даўняе сяброўства?..**

— У нас, на жаль, крытыка ў галоўнай функцыі — як «самасвядомасць літаратуры» — неўпрыкмет знікла. А ў Сербіі яна існуе, як і раней, у часы слыннага Ёвана Скерліча, літаратуразнаўца і крытыка пачатку XX стагоддзя, калі кожны аўтар і выдавец міжвольна задумваўся, што ж ён скажа пра іхні «прадукт». Канешне, і дыскусіі вядуцца, і «сяброўская» крытыка ў літаратурным працэсе прысутнічае таксама.

Зрэшты, каб агульная карціна літаратурнай сітуацыі не выглядала ідылічнай ці ўласна мною ідылізаванай, мушу згадаць, што Саюз пісьменнікаў Сербіі таксама быў у свой час падзелены. Час халоднай вайны мінуў. Цяпер, што называецца, ідзе перыяд мірнага суіснавання.

**— У Беларусі ўжо ставяцца з іроніяй да ролі пісьменніка як Прамоўцы, пасрэдніка паміж вечным і прыўкрасным ды чытачом. А як у Сербіі? Ці жывы там яшчэ ўплыў пісьменніка на грамадскую думку?..**

— У Сербіі значныя пісьменнікі традыцыйна актыўна прысутныя ў грамадскім жыцці, а таксама на дзяржаўнай службе: скажам, яшчэ ў Каралеўстве Сербаў, харватаў і славенцаў (Югаславіі) на высокіх дыпламатычных пасадах служылі слынныя паэты Ёван Дучыч і Мілан Ракіч, празаікі Іва Андрыч і Мілаш Црнянскі, камедыёграф Браніслаў Нушыч… Яскравы прыклад стаўлення сербскага грамадства да пісьменніка ў новыя часы — тое, што ў вельмі складаныя 1990-я гады грамадства звярнулася да самага аўтарытэтнага пісьменніка Добрыцы Чосіча, каб ён узяў на сябе функцыі Прэзідэнта СР Югаславіі. Альбо другі прыклад: вядомы паэт і старшыня Саюза пісьменнікаў Сербіі Слабадан Ракіціч узначальваў адну з дзейсных палітычных партый. Эліту грамадства складаюць пісьменнікі і цяпер. Аднак у грамадска-палітычным жыцці пісьменнікі сталі крыху менш заўважнымі. Што ж да ўплыву іх, заўсёдных «уладароў дум», то ён па-ранейшаму ёсць.

**— Актуальныя тэмы нашай прозы сёння — фемінізм (калі не так востра, то свет жанчыны); дэструкцыя асобы ў гарадскім асяродку; асаблівасці беларускага менталітэту. Пастаянным застаецца адсотак ваеннай літаратуры, перадусім праз творчасць сталых аўтараў. Не змяншаецца ўвага да праблем вёскі. А на што звяртае ўвагу сербскі пісьменнік — калі ўявіць сабе такі агульны псіхалагічны партрэт?..**

— Фемінізмам былі «інфіцыраваныя» практычна ўсе літаратуры былых сацыялістычных краін. Такая праверка на імунітэт. Але сербская літаратура гэтую праверку прайшла нармальна. «Інфекцыя» дала хіба толькі маргінальную плынь. А ўвогуле праблемна-тэматычнае кола яе даволі шырокае. Яно ўключае і ўсё тое, што вы згадалі, і спецыфічныя тэмы, абумоўленыя ўласна сербскай гісторыяй, геапалітычнай сітуацыяй. Некаторыя з іх я ўжо згадваў — скажам, вайну 1999 года. Варта дадаць падзеі грамадзянскай (і рэлігійнай) вайны 1992 — 95 гадоў у Босніі і Герцагавіне, акупацыю Косава і Метохіі — Сербскага Ерусаліма… Адпаведна, сербскі пісьменнік не можа ігнараваць свае задачы як «інжынер чалавечых душ». Таму даследуе гэтыя супярэчнасці ў праекцыі на душы сваіх суплеменнікаў і былых суграмадзян па Федэрацыі. А сербская літаратура не з тых, якія абмінаюць і загладжваюць калізіі. Звярну ўвагу яшчэ на адну асаблівасць: запатрабаванасць сапраўднай духоўнай літаратуры, шмат выданняў і перавыданняў святых XX стагоддзя — свц. Нікалая (Веліміравіча), прападобнага Юсціна (Попавіча), Патрыярха Паўла, сучаснага старца-манаха Фадзея… Дарэчы, членамі Саюза пісьменнікаў Сербіі з'яўляюцца і некаторыя сённяшнія архіерэі. Карацей кажучы, я не перабольшу, калі падагулю ўсё сказанае фразаю, што славеснасць сербаў была і застаецца выключна багатай, яркай, вартай увагі ўсяго свету.

**Пытанні рыхтавала Наста ГРЫШЧУК**

**Шмат таленавітых аўтараў на літаратурнай карце Сербіі. Шмат яркіх зорак на сербскім паэтычным небе. Ды і на празаічным даляглядзе таксама. З асобнымі творамі сербскіх аўтараў, перакладзенымі на беларускую мову, прапануем пазнаёміцца чытачам «ЛіМа».**

**Душан ЧОЛАВІЧ**

## Абраннікі (На іканастасе неба)

*Продкі нашы,*
*Нябёсаў насельнікі,*
*Вачэй не зводзяць*
*З нязгаснага сонца веры,*
*І з усіх бакоў неба*
*Расчыняюцца для іх дзверы*
*Прыстанкаў усеахопнай любові.*
*А я, недастойны, з трымценнем*
*Гляджу на іканастас*
*У надзеі на літасць*
*І ў чаканні…*
*Адчуваю, што мяне*
*Таксама клічуць узняцца.*
*Надыходзіць і мой час.*

**Србалюб МІЦІЧ**

## Сутнасць сноў

**Сон — лобная косць быцця**

*1*

*Калі сню горлінку,*
*Арлы мне вочы выдзёўбваюць.*
*Калі сню прыгажуню-дзяўчыну,*
*Прачынаюся з белай барадою.*

*Калі сню асфальт,*
*Правальваюся па калені.*

*Калі сню…*

*Ці дасягну*
*вяршыні ночы.*

*2*

*У сне я крутарогі*
*Як алень ці месяц*

*На рагах раскінутае неба*
*Вочы вялікія нібы сонца*

*Ранкам*
*Знішчаны дзьмухавец*

*Смаўжы мяне клічуць на*
*паядынак*

**Адам ПУСЛАІЧ**

## Бачнае, пытанні і адказы

*Павыходзілі на вуліцу*
*Толькі дзяды і бабулькі.*
*Няма сярэдняга ўзросту людзей,*
*І ніводнага дзіцяці,*
*ні травінкі нідзе.*

*Вырашыў у іх папытацца:*
*— А дзе ж вашы астатнія?*
*Адзін павярнуўся да мяне*
*І з усмешкаю ўдакладніў:*
*— А якія астатнія?*

*І пайшоў сабе.*

*Мяне яго пытанне спалохала.*
*Не расце трава на попеле.*
*Гэта я засвоіў яшчэ ў тыя часы,*
*Калі быў малы і ў вёсцы жыў.*
*А цяпер жа ведаю*
*намнога больш.*

**Радамір АНДРЫЧ**

## ***

*Месяц на распаленых языках*
*гэтага вечара з усімі ранейшымі*
*лірычнымі запісамі рахункі*
*зводзіць*
*і вызначае колькі сілы яшчэ*
*маюць гукі прынятыя струнамі*
*інструмента схаванага ў вадзе*
*пад ручку з даўнім вар'яцтвам*
*апошні рамантык выходзіць*
*зноў*
*на пустэльную дарогу і бачыць*
*узрушыўшыся свае аблічча*
*у сон недаснёны ўціснутае*

**Раша ПЭРЫЧ**

## Век страху

*Паўзу векам страху!*
*Размножаны знішчальнік*
*цікуе з агульнага нуля,*



*з жарала ўсёвынішчэння.*
*Але… дрыжыць і яго джала:*
*капае тлустае зло*
*з гадзінніка апошняга.*
*Кожны ўкус — перадсмяротны*
*для кожнага.*
*Паказвае свой час і ахвяра,*
*і кат.*
*А ён, Вярхоўны, пэўна ж, ён*
*сляды ўсіх упаляваных замятае?*
*А ці ў мёртвы век ён*
*семя новае духу жывога пускае?*

**Драган ЛАКІЧАВІЧ**

## Ноты нячутнага плачу маёй маці

*Едучы аўтобусам 59-м,*
*на чыстай старонцы*
*У канцы кнігі «О каласы мае»*
*пішу:*

*Яны загінулі за айчыну*

*Аднаўляю ў памяці экспазіцыю*
*Мінскага Музея Вялікай*
*Айчыннай вайны.*
*Мне знаёмы амаль усе віды*
*зброі,*
*Боепрыпасаў, амуніцыі,*
*а таксама і фотаздымкі —*
*Наша старая хата з Ліпава*
*захавалася ў Беларусі.*
*Можа, тут і наша ікона*
*святога Іаана,*
*Вяртання якой маці мая*
*ўсё яшчэ чакае,*
*Бо пайшла яна за дзядзькам*
*на яго расстрэл.*

*У музеі ўсе жывыя — дзед*
*і дзядзькі абедзвюх ліній;*
*Цёткі песні баявыя спяваюць*
*і галосяць,*
*Усе з пяцікутнымі зоркамі.*
*Яны яшчэ не расстраляны,*
*Яшчэ не трапілі ў засады,*
*Раскладаюць кастры і збіраюць*
*кветкі на будучыя магілы.*
*І мы, пасляваенныя дзеці,*
*Яшчэ гуляем з гільзамі*
*іхняй зброі*
*Ў лясных бліндажах і зямлянках,*
*Тады яшчэ збудаваных*

*У сербскай айчыне.*
*Цяпер гэта рэлятывізавана,*
*Гаворыцца, што і акупантам*
*Трэба помнікі ставіць.*
*Кожны піша сваю гісторыю*
*ў кнігах.*

*У музеі Беларусі*
*Жыве маё дзяцінства.*
*Захоўваюцца запісы і песень,*
*і галашэнняў,*
*І нячутны плач маёй маці.*

**Прэдраг БАГДАВІЧ ЦІ**

## Смоўж-самотнік

*Пасля таго як гаспадар*
*абрэзаў вінаграднік,*
*у знак пратэсту смоўж*
*замкнуўся ў сваёй хаціне.*

*Уваход туды засланіла*
*з слізі шторка,*
*паверх якой — слязіна*
*сасновай смалы.*

*Смаўжу ў самоце сняцца*
*маладыя лісточкі,*
*яшчаркі і шпакі над*
*вінаграднымі гронкамі.*
*З прасвядомасці даносяцца пахі*
*сакавітых траў, збажыны*
*і мядовых сотаў.*
*Разрыў-траву на сыходзе*
*дажджу*
*чарапашка знайшла і ўхапіла.*

*Нехта з іх дваіх*
*учыніў злачынства.*

**Міча ЦВІЕЦІЧ**

## Гаспадар і госць

*Калі здалёк прыязджаю*
*ў родную хату,*
*Дрыжыць невыносная*
*бездань часу.*
*Нікога, хто б мне ўзрадаваўся.*

*Ні той, што замешвала*
*цеста надзённае,*
*Што на агні юнага сонца*
*хлеб выпекла;*
*Замест святога напою*
*з бацькавай рукі*
*Нябачны нехта падае*
*кілішак атруты.*

*Калі здалёк прыязджаю*
*ў родную хату,*
*Адначасова я — і гаспадар,*
*і госць.*

**Ана ДУДАШ**

## Святая Валянціна Мінская

*Твае ўсе намеры*
*ўзвышала вера;*
*а пакорлівасць яняці дапамагла*
*ў сэрца прыняць Спасіцеля*
*і, схіліўшы галаву,*
*падобна да ягняткa, ісці*
*па шляху цярністым*
*і свечку несці.*

**Джорджа НІКАЛІЧ**

## Ваганні

*Елка што ўзвілася пад аблокі*
*Ў глебу родную заземлена*
*глыбока*

*Цёрн калючкі выстаўляе*
*ўпарта*
*Пры пяшчотных лісціках*
*на варту*

*Восень яблыню адорвае*
*ўраджаем*
*Плод якой паспеўшы загнівае*

**Любіца МІЛЕЦІЧ**

## Бачна тое, пра што сказаў святы

*З вышыняў кажа Сава святы,*
*Седзячы за кнігай:*
*«Мудрасць — лязо,*
*Таемныя веды нявінных.*

*Калі паўстаюць дзікія сілы,*
*Мудрасць — наш надзейны*
*заслон».*

*А яшчэ кажа ён пра слова*
*характво*
*Ды пра зямлю, не заслоненую*
*словамі.*

*І цяпер, калі мы бліжэй*
*да тлену, чым да сябе,*
*Мудрасць для нас —*
*адзіная зброя*
*Перад гэтым неўтаймоўным*
*светам,*
*Які так жахліва мітусіцца.*
*Кажа Сава з няром у руцэ:*
*«Усё мінучае, апроч святасці».*
*Кажа ён так, і нездарма.*
*Цяпер гэта мы добра бачым.*

**Нэвена ВІТОШАВІЧ ЧЭКЛІЧ**

## Беларусь

*Беларусь —*
*гэта казка раўнінная.*

*У кожнай хаце з дрэва*
*жыве пастух,*
*які стане царом.*

*Нідзе не ўбачыш*
*такой колькасці белых крылаў!*

*Можа, гэта ангелы,*
*у лебедзяў ператвораныя?*

*А ці то ліхой мачахай*
*зачараваныя царэвічы?*

*Кожны сваю царэўну шукае,*
*з дрэў высокіх гукае,*

*трапяткімі галінамі,*
*як рукамі, махае?*

*А каханыя іх*
*на ўсіх дарогах*
*з пяшчотнымі белымі*
*кветкамі сустракаюць.*

*Безліч суквеццяў,*
*куды ні кінь вокам,*
*раскрылася над нябёсамі,*
*якія ў азёры глядзяцца.*

*Нідзе гэтульки неба на зямлі!*
*І нідзе гэтулькі белых крылаў!*

*Беларусь, у нізіне стаіць*
*твой Алімп.*
*А можа, ты раўнінай ніколі*
*і не была?*

Мінск, Смаргонь — Бялград

**Зоран Хр. РАДЗІСАЎЛЕВІЧ**

## Жарына

*Пачарнеў я*
*На ібарскім пляжы пясчаным*
*Калі дадому прыду*
*Чужой мне будзе*
*Мая белая жонка*

*Напэўна*
*Ў Бразіліі недзе*
*Мулатка чакае мяне*

*Чорны мой дзень*
*Няхай будзе чорнаю і пасцель*

*Ды ці ж можа*
*Чорнае ў белае ператварацца*
*З астылага вугалю*
*Жарына разгарацца*

**Ёван Л. ДЭЛІЧ**

## Пажарышча

*У Прыдворыцы* ліхтары і кулі,*
*як светлякі,*
*І скавытанне сабак*
*растрывожаных.*
*Месяц з-за гор да кінжала*
*падобны,*
*А ценяў-людзей жа так многа,*
*Што ажно скура ёжыцца.*
*І калі вёска заходзіцца енкам,*
*Уцячы можа толькі рэчка.*

*Божае свята, а тут вар'яцтва,*
*Якое ў попел ператварыла*
*хаты.*
*Пажарышча цішаю*
*пакрываецца,*
*Кавалак хлеба застрагае ў горле*
*І з адчаю рукі курч зводзіць.*
*Няма адказу. На душах цяжар.*

** Вёска бліз Гацка ў Герцагавіне, якую ўсташы-мусульмане якраз на свята Раства Хрыстовага спалілі і перабілі ўсё яе насельніцтва, нядаўніх сваіх суседзяў.*

**Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ**

Драгаслаў МІХАІЛАВІЧ



**Драгаслаў Міхаілавіч нарадзіўся ў 1930 г. у сербскім горадзе Чупрыя. Адзін з самых вядомых сербскіх пісьменнікаў канца XX — пачатку XXI стагоддзяў, лаўрэат многіх літаратурных прэмій, акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў, аўтар зборнікаў апавяданняў «Добрай ночы, Фрэд» (1967), «Славі зорку, якая падае» (1983), «Паляванне на клапоў» (1993), «Бясплодная восень» (2000) ды інш., зборніка п'ес «Уводзіны ў працу» (1983), дакументальна-публіцыстычных кніг «Голы востраў» (1 — 3, 1990 — 1995) і «Кароткая гісторыя знішчэння» (1999). Творы пісьменніка перакладаліся на многія мовы свету, друкаваліся ў альманаху «Далягляды», часопісах «Крыніца» і «Всемирная литература».**

# ШУКАР МЕСЦА

*Урывак з аповесці*

**Мілараду Бату Міхаілавічу**

Тратуар пачала падмочваць ледзь прыкметнай імжа, на вуліцы тут і там з'явіліся парасоны.

Чаміл, паправіўшы зашмальцаваную кепку з раменьчыкам і паламаным казырком, агледзеў сваім вытарашчаным вокам нізка схіленае неба. «Калі гэта ненадоўга, то добра, — падумаў ён. — Тады, як звычайна пасля дажджу, кліентаў стане больш. А вось калі зацягнецца, то каму спатрэбіцца чысціць абутак?»

Ён склаў шчоткі ды астатнія прычындалы ў скрыню, якая, уласна, была яго майстэрняй, і з канца тратуара пад электрычным слупом адышоў дзясятак крокаў на Македонскую вуліцу у нешырокае паддашша «Камісійнага», які дзе хто называў яшчэ, як і да вайны, крамай братоў Леві.

Побач, на плошчы Рэспублікі, на шматпавярховым будынку «*Riunione*», успыхнуў, чамусьці так рана, і пачаў мільгацець нейкі рэкламны знак. На мінакоў і рэдкія аўтамабілі ён кідаў чырвона-зялёна-сінія водбліскі. Пасля гэтага, нібы па дамоўленасці, загарэліся таксама жаўтаватыя цьмяныя лямпачкі на металічных слупах. Асвятлялі яны слаба, вакол іхніх абажураў утвараліся нейкія падвойна рассунутыя залацістыя абады.

У гэтым падстрэшшы Чаміл сеў на свой зэдлік са спінкаю і адчыніў накрыўку скрыні. Каля падстаўкі для нагі зноў параскладаў бляшанкі, бутэлечкі, суконкі. На люстэрку з левага боку заўважыў пляму чырвонага колеру — плюнуў на шкло і рукою сцёр яе. Затым развесіў на цвіках паперадзе і збоку рознакаляровыя з густой шчацінаю шчоткі.

Тым часам у кіёску за дзясятак метраў ад яго, хоць гэта ўжо на Дэчанскай вуліцы, сляпая прадаўшчыца газет прамовіла ціхім голасам маладому чалавеку ў шэрым твідавым пінжаку:

— Яшчэ не прывезлі, пане. Вось-вось павінны прывезці.

Прыкрываючы павекамі вочныя яблыкі да паловы, сляпая жанчына вяртала пакупніку рэшту. Грошы яна распазнавала пальцамі і добра ведала, што ў яе дзе ляжыць. Між тым, звычайна каля яе знаходзіцца маці. Але цяпер чамусьці няма.

Гэтая старая, маці прадаўшчыцы, нечым нагадвала Селену, маці Мечкі. Толькі што не такая агідная.

А тая баба проста не зносіла яго. З першай сустрэчы. Бывала, корпаецца чагосьці каля свайго меднага катла на двары і адтуль дзяўгае:

— Джанэс романэ, Чаміл, а?

І гэта ў яго пытаецца, каб на яе трасца! Ды ён жа заўсёды быў чорны, як асмалак, і адно вока ў яго выпучанае, і нос гламазны тырчыць, нібы крук, — дастаткова раз паглядзець, і зразумела, хто ён такі.

А крыху воддаль, на нейкім цурбане, сядзеў звычайна стары тоўсты мужчына, Іван, яе муж. Таўстун пацягваў люльку з кароткай крывой соскаю, тыльным бокам далоні папраўляючы ўжо сівыя, пажоўклыя ад тытуню вусы.

Чаміл павярнуўся да старога, ведаючы, з кім гаварыць варта:

— Як гэта не гавару.

Але стары прыкідваецца, быццам бы не чуе:

— Ну што ты, Селена… Не трэба так… Далібог, прашу цябе. Я ж такі самы цыган, як і вы...

— А не турак? — гаўкае яна адтуль.

Нараджала Селена ўжо разоў дзесяць. І ў гэтых шырокіх брудных спадніцах выглядала старэйшай за мужа. Магчыма, не толькі выглядала.

— Як гэта турак? Ды я туркаў і не бачыў ніколі!

Хоць паходзіў ён, можа, і з Турцыі. Сам не ведае добра. У любым выпадку, яго брат Чазім у Ягадзіне жыў у мусульманскай турэцкай махале*, паміж ракою Беліцай і рынкам, тады як праваслаўныя мелі свой квартал, побач з Левачкім кірмашом. Іванава радня, відаць, пра гэта выведала.

— Дык ты, браце, ужо стары ром! У цябе свае дзеці ёсць! Якая ж ты па́ра для нашай Мечкі?!

Чаміл разводзіць рукамі, павярнуўшыся да вусатага таўстуна, і смяецца:

— Ну так ужо і стары?! Мне ўсяго дваццаць пяць. А якія ж гэта гады?! — У сапраўднасці яму ўжо трыццаць мінула. Але ж хіба яны запатрабуюць пасведчанне аб нараджэнні? — Рана мяне ажанілі...

Нарэшце стары Іван падымае галаву і вымае люльку з зубоў:

— А якая табе справа да яго дзяцей?!

Ну вось, ён ведае мужчынскія правы. І ведае, што баба не павінна ўмешвацца:

— Відавочна толькі тое, што гэта дзеці яго жонкі. А як ром можа ведаць, которыя дзеці яго, а которыя не? Яны яго, калі ім маці яго жонка. Астатняе не яго.

З плошчы Рэспублікі на Македонскую вуліцу заязджае, грукочучы, вялікі смеццевоз. Крыху не даехаўшы да «Камісійнага», ён спыняецца, і двое албанцаў у доўгіх плашчах-дажджавіках з капюшонамі саскокваюць з падножкі ды заходзяць у двор. Прыладзіўшы на плечы спецыяльныя крукі, выносяць адтуль вялікія глыбокія скрыні, запоўненыя смеццем. Вытрасаюць у атвор смеццевоза, падобны да таго, які ў бетонамяшалак, і вяртаюць скрыні ў двор. Затым зноў заскокваюць на падножку і свістам падаюць знак шафёру. Пасля гэтага машына кранаецца і аддаляецца.

Невысокая прысадзістая дама сярэдняга ўзросту з вялікай галавой, у шэрым капялюшыку, вядзе на павадку каржакаватага, моцна збітага, светла-карычневага маладога баксёра. Чаміл шчоўкае языком. Сабака віляе падрэзаным хвастом і спрабуе прыпыніцца. Але дама тузае за павадок, і яны ганарліва праходзяць далей. Па-хуліганску падміргваючы сваім выпучаным вокам, Чаміл ціха аблайвае гаспадыню сабакі.

А жыццё з жонкаю Мінаю ў Чупрыі было шукар.

Яна ўжо паспела нарадзіць шасцёра дзяцей. Праўда, траіх Бог забраў. І тады жонка мыла бялізну па чужых дамах, а ён са сваёю скрыняю сядзеў перад карчмою «Сінджаліч». Усе яго ведалі і ўсе з ім прыязна абыходзіліся. «Як ты, Чаміл? Шукар?» — пыталіся звычайна. А ён, па-балгарску ківаючы галавою налева-направа, пацвярджаў: «Шукар, шукар».

Той вясною, напярэдадні вайны, па завулку Сібінавіча, які часцей называлі Сібінавічавай махалай, разнесліся чуткі пра незвычайнае ўмельства Мечкі, дачкі рускага цыгана Івана, які са сваім выводкам асеў каля Ягадзінскага кірмашу за Клефішавай бойняй. Мечку гэтую, рана выдадзеную замуж, пільнавалі бацька, браты і муж. Хоць і гаварылася, што пільнаваць патрэбы няма, бо яна сама пільнуецца, ды калі выбіраліся на большыя справы, за межы Ягадзінскай акругі і зоны ўвагі з боку мясцовых улад, то яе пускалі наперад як разведчыцу. І пакуль яна варажыла па руцэ альбо гадала на бабах, пакуль спявала ці грала на балалайцы, задурваючы гаспадарам галовы, мужчыны тым часам пацiху кралі, рабілі свае справы. Калі ж Мечка апыналася ў незайздросным становішчы, тады яны дзёрзка, з крыкам і гікам, страляючы з ружжаў — як у тых жывых карцінах, што паказваюць у чупрыйскім Доме рамесніка, — падляталі і, пасадзіўшы яе на неасядланага белага каня, выратоўвалі ў апошні момант. Пра іх подзвігі пачалі хадзіць легенды.

Чаміл такія байкі і сам з задавальненнем слухаў, і пераказваў іншым.

Яму здавалася, што ў гэтым ёсць нейкая помста за гароты цыганскага жыцця, і гэта цешыла душу. Аднак ролі маладых прыгожых жанчын у подзвігах цыган ён не цаніў. Лічыў, што ведае, як гэта дасягаецца.

— Яны такія, Чазім, — казаў ён брату. — Сапсаваныя і небяспечныя.

Сцеражыся іх!

А тым часам па Чупрыі разнесліся чуткі, што свінням дзяржаўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства “Добрычава” пагражае небяспечная хвароба з магчымым паморкам і жывёлу збіраюцца распрадаць. Цыганы наляцелі на танны харч, згаджаючыся купляць свіней і жывых яшчэ, і ўжо здохлых. Сярод вясны па Сібінавічавай махале запахла свежыною, разгарэліся вогнішчы пад казанамі для таплення тлушчу і для мылаварэння. Выходзіла, будзе не лета што́ есці і чым мыцца.

Чаміл адразу ж паслаў свайго старэйшага сына па брата, які жыў у турэцкім квартале Ягадзіны. А сам пабег на чупрыйскі базар: ці не пазычаць гандляры грошай? Нешта ў яго было і ашчаджанае, а ў якасці закладу за пазыку ён прапаноўваў сваю хаціну-мазанку ў махале. Так у свой час змог прыдбаць пачатковы капітал.

Пасля гэтага нанятай падводай разам з братам цэлы тыдзень перавозіў добрычаўскіх парсючкоў на ягадзінскую Клефішаву бойню. У свінарніках ён умеў ацаніць, які з іх колькі яшчэ вытрывае, але, нягледзячы на гэта, некалькіх па дарозе страціў. А наогул сачыў пры пагрузцы і перавозцы, скрыню з дошак выкладаў саломаю. У Ягадзіне ж меў чалавека, які прымаў падвезенае без дагляду.

У рэшце рэшт, калі заплаціў належнае брату і работніку бойні, разлічыўся з гаспадаром воза і з тымі гандлярамі, якія пазычалі грошы, то яму засталося ажно дзве тысячы дзінараў.

Шалёны заробак! Даўно ён такіх грошай не меў.

Ад будынка рэдакцыі газеты «Борба» падляцеў хлапчук у чырвонай кашулі ды плашчыку. Па-дзіцячы дрыготкім голасам ён пранізліва крычаў: “Другое выданне “Навін”! Другое выданне “Навін”!..”

Гукаючы так з усёй моцы, спыніўся на рагу каля Чаміла. Газету ён даставаў спрытна, як шаблю з ножнаў, і гэта прыцягвала публіку. За пару мінут хлапчына прадаў некалькі нумароў.

«Гэты не прападзе», — падумаў Чаміл.

Тым часам з нейкім пакетам пад пахай выскачыла і наляцела на хлапчука расхваляваная маці сляпой кіяскёркі. Вельмі падобная да дачкі — з такім самым седлаватым, амаль што абрэзаным носам, а ў нечым падобная і да агіднай Селены — чым, ён не мог вызначыць, баба засычэла на хлапчука, махаючы газетамі, як на скаціну:

— Прэч адсюль! Уцякай! Гэта не твой раён!

Хлопец неяк выцягнуўся, спачатку застыў, а потым прамовіў не без пагрозы:

— Ну-ну!

Ён, вышэйшы за жанчыну і з даволі рашучым выглядам, быў гатовы да сваркі. Але раптам павярнуўся, перабег вуліцу і неўзабаве знік дзесьці каля «Палітыкі». Добра зарабіўшы, яны ўдваіх з братам адзначалі гэта: хадзілі па ягадзінскіх корчмах і выпівалі.

Адкуль жа раптам гэтая маладзіца там апынулася? Іванаў табар быў недалёка і ад турэцкай махалы, і ад бойні. Магчыма, яна адчула, што можна абкруціць яго? Ды не! У гэта ён не можа паверыць. І ніхто ніколі нічога падобнага яму няхай не гаворыць. За гэта ён заб'е!

Яны з братам проста сядзелі, расслабляліся. І тут у карчму зайшлі тры высокія, светлавалосыя, але смуглаcкурыя хлопцы, а з імі прыгожая русавалосая дзяўчына. Хлопцы — у расшпіленых лёгкіх сарочках, модных гарадскіх штанах, тупаносых нячышчаных бела-карычневых туфлях і ў светла-шэрых капелюшах з шырокімі брылямі. А дзяўчына — у чырвонай шаўковай блузцы, тонкай шырокай квяцістай спадніцы, з вялікім жоўтым шалем, канцы якога віселі за плячыма. Скура белая, авальны твар ружавеецца, тонкія вусны падфарбаваны, вялікія вочы раскрыты шырока і даверлівыя. Нічым не нагадвала яна фатальную прыгажуню з прыгодніцкіх аповедаў пра цыганак.

— Вы цыганы?

— Так.

— Дык выпіце што-небудзь з намі.

— Давай.

І вось яны разам пілі два дні.

Чаміл спачатку нават не думаў, што дзяўчына можа належаць яму. Мечка — яму?! Ды не, дзе там! Палічыў, хіліцца да яго таму, што ён частуе, а ўсе астатнія выпіваюць за яго кошт. Потым, калі прыгажуня засталася ў кампаніі — а ён тым часам толькі адлічваў па дваццаць, па сорак дзінараў, — падумалася, што, можа, атрымаецца нешта ў яе з Чазімам. Ён жа, бадай, маладзейшы і прыгажэйшы.

Мечка ж, нават не гледзячы на Чазіма, усё падсоўвалася да яго. Сядзіць на крэсле зусім поплеч, распытвае пра нешта на сваёй мяккай руска-цыганскай мове, усміхаецца, выстаўіўшы невялічкія белыя зубкі, мурлыча песенькі на вуха, кранае яго руку і стрымлівае, калі ён пакідае афіцыянту вялікую рэшту.

А побач з імі сядзіць, надзьмуўшы губы, малады хударлявы хлопец, амаль дзіця. Быццам бы пакрыўджаны, ён злосна зыркае са свайго месца і раз-пораз працяжна кліча:

— Мечка-а-а! Ну пайшлі, Мечка-а-а!

Яна толькі адмахваецца.

— А хто ён табе, гэты хлопец? — пытаецца Чаміл.

— Ды муж, — адказвае Мечка нявінна. І ва ўсмешцы паказвае прыгожыя свае зубкі.

— І ён табе дазваляе вось так?

— А што? — адказвае яна і зноў нявінна ўсміхаецца.

Сапраўды, «і што»? Ён жа дзіця, абцяжаранае такой кабетай, цяжар якой нямногія старэйшыя вытрываюць. І яму нічога не застаецца, як быць паслухмяным.

На другі дзень Мечка шапнула нешта аднаму са сваіх братоў — той ажэненага хлапчука спачатку добра падпаіў, а потым некуды вывеў. І вось Чаміл з Мечкай удваіх выбраліся з шумнага асяродку ў п'янлівую майскую ноч. У змроку каля нейкага плота ён абняў невысокую зграбную прыгажуню, якая пахла малаком і трошкі дымам. Піў яе п'янлівую душу з вуснаў, ад чаго хутка закружылася галава, і паступова задзіраў спадніцу, пад якой, адчувалася, больш нічога не было. Яна не супраціўлялася, а таксама, упіўшыся ў яго вусны, прыціскалася пругкім жыватом і сцёгнамі. І калі ён сваім целам намацаў у яе тое самае гарачае месца, плот, прыняўшы іх на сябе, памалу нахіліўся, і Чаміл на ім узлецеў, залунаў, не здольны ўсведамляць, дзе знаходзіцца.

Потым, калі, абняўшыся, вярнуліся ў карчму, ён разглядаў яе прывабны ўсмешлівы твар на сваім плячы і сам у сябе пытаўся, ці не прыснілася гэта. Хіба ж ён, Чаміл, заслужыў такое хараство? Ці між сапраўдным цыганам і жанчынаю заўжды так, толькі ён дагэтуль не мог паспытаць, ці гэта дадзена толькі яму?..

**Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ**

** Махала (тур.) — ускраінная частка горада, перыферыйны квартал.*

# Маральны запавет продкаў

**Не так даўно ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга «Мовы ўсяго жывога. Сербскія народныя казкі». У асноўным яе склалі творы з запісаў слыннага сербскага лінгвіста і фалькларыста Вука Стэфанавіча Караджыча (1787 — 1864). Казкам, як і іншым фальклорным жанрам, уласцівая непаўторная займальнасць, яны даюць магчымасць пазнаёміцца з гістарычнымі ўмовамі жыцця народа, яго традыцыямі і нацыянальным характарам. Што ж агульнага і чым адрозніваюцца казкі беларусаў і сербаў?**




Нягледзячы на геаграфічную аддегласць, гэтыя два народы неаднойчы разам супрацьстаялі ворагам-заваёўнікам. А інакш і не павінна быць, паколькі іх яднае не толькі сяброўства, але і сваяцтва: адны карані, агульны радавод, а таксама падобныя гістарычныя шляхі ад глыбокай старажытнасці і да цяперашняга часу.

Як вядома, у навуцы ўжо доўгі час ідуць дыскусіі наконт геаграфічных каардынат прарадзімы славян і наконт таго, адкуль саюз славянскіх плямён, адзіны ў глыбокай старажытнасці, пачаў рассяленне. Ды паказальна, што розныя меркаванні навукоўцаў можна звесці, больш-менш упэўнена, вось да чаго: прарадзіма славян знаходзілася або на землях, заселеных сучаснымі беларусамі, або на землях, якія цяпер суадносяцца з тэрыторыяй пражывання сербаў. Адпаведна, паводле адной версіі вучоных, старажытныя славяне падаліся ў свет адсюль (ёсць меркаванне, што з цяперашняга Палесся) і з часам, пераадолеўшы Карпаты, зайшлі на Балканскі паўвостраў. Паводле другой версіі, першапачаткова славяне займалі Балканы, а потым сталі рассяляцца і паступова абжылі цэнтральнаеўрапейскія і ўсходнееўрапейскія тэрыторыі. Калі прыняць такую гіпотэзу, можна зразумець глыбінна-карэнныя повязі і пазнейшыя кантакты, якія ўсталёўваліся паміж беларусамі і сербамі на працягу многіх стагоддзяў — больш за ўсё ў духоўнай сферы, праз культуру, пісьменства, мастацтва.

*Сербскія казкі маюць падабенства з беларускімі ў тым, што апавядаюць пра самыя істотныя, вызначальныя моманты жыцця — выкананне запавету бацькоў перад іх адыходам у лепшы свет, справядлівае вырашэнне праблемы пераемнасці і спадчыны, працяг роду, пошук і ўратаванне суджаной (нявесты, жонкі)... Асабліва цікавы абагулены вобраз сялянскага сына ці дачкі, якія становяцца роўняю каралям, бо ў нашых казках кароль — такі самы, як мужык, толькі багацейшы.*

Параўноўваючы сербаў з беларусамі, трэба памятаць, што тых і другіх прыблізна аднолькавая колькасць была на пачатку XX стагоддзя, прыкладна тое самае і на пачатку стагоддзя XXI-га. Зноў-такі, у найноўшы час набыццё самастойнай дзяржаўнасці сербаў звязана з распадам саюзнай дзяржавы СФРЮ, гэтаксама як беларусаў — з распадам СССР... У многім падобнымі былі гістарычныя перыпетыі, абумоўленыя вынікамі несправядлівых пераўладкаванняў свету, якія вялі да гвалтоўных размежаванняў, падзелаў і супрацьстаянняў, — аж да братазабойчых войнаў, страт тэрыторый і мільёнаў насельніцтва. Так, абодва нашы народы сустракалі многія варожыя навалы, апыналіся пад уладай захопнікаў, зведалі пераход пад прымусам у іншую веру...

А ў сувязі з гэтым шмат агульнага мае самасвядомасць, сфарміраваная пад уздзеяннем такіх умоў і выпрабаванняў. Сутнасць яе належным чынам выявілася ў перыяд Другой сусветнай, для нас Вялікай Айчыннай, вайны, калі, як мы добра памятаем, загінуў кожны чацвёрты беларус. Сербы таксама панеслі неймаверна вялікія, жахлівыя страты, паколькі мужна ўзняліся на барацьбу супраць захопнікаў.

Дарэчы, тады наш Янка Купала пісаў: «Азірніцеся па баках, беларусы! Шырыцца і расце ў роднай па крыві Югаславіі сакаліны партызанскі рух. Немцы заклейваюць грознымі плакатамі залітую крывёю краіну. "За кожнага забітага немца будзе расстраляна і павешана сто сербаў!" Смехам сустракаюць фашысцкія пагрозы сербскія партызаны і кажуць: "Вельмі многа — сто сербаў за аднаго немца, не па кішэні. Але калі кожны серб раней заб'е па аднаму немцу, дык як жа ж вы, фашысцкія каты, заб'яце сто сербаў за аднаго фашыста?" Гэтаксама скажам і мы, беларусы».

Невыпадкова наш слынны Пясняр бачыў у сербах прыклад. Яны сапраўды вылучаліся патрыятызмам, свабодалюбствам, няскоранасцю, а непасрэдна ў барацьбе з ворагамі — самаахвярнасцю, трываласцю, мужнасцю, адвагай. Прычым гэтыя рысы нацыянальнага характару выхаваліся і нязменна праяўляліся ў ранейшых змаганнях з ворагамі. Каб лепш зразумець гэта, прыгадаем найважнейшыя падзеі сербскай гісторыі, — непаўторна складанай і трагічнай.

Аб'яднанне і цэнтралізацыя ўлады на сербскіх землях адбывалася яшчэ ў перыяд ранняга сярэднявечча. І пад канец XII стагоддзя сербы мелі настолькі трывалую дзяржаўнасць, што дамагліся прызнання незалежнасці ад Візантыі. Выключная заслуга ў гэтым належыць вялікаму жупану (уладару) Стэфану Нэманю, заснавальніку ўладарскай дынастыі Нэманічаў, і яго сынам — Саву, дзякуючы якому самастойнасць атрымала Сербская праваслаўная царква, і Стэфану, які стаў першым сербскім каралём. Сербская дзяржава ўмацоўвалася і мела вельмі высокія па тым часе дасягненні ва ўсіх сферах гаспадаркі і культуры. Далейшаму ж росквіту перашкодзілі заваёўнікі-туркі.

У 1389 годзе адбылася гістарычная бітва на Косавым полі. Тады сербы пад камандаваннем мужнага і мудрага князя Лазара выступілі супраць большага ў шэсць разоў войска турэцкага султана Мурата. Вынікі бітвы такія, што нікога немагчыма назваць пераможцам: загінуў князь Лазар, і войска яго панесла велізарныя страты. Загінуў і султан Мурат, прычым і яго войска пацярпела. Аднак пасля Косаўскай бітвы Сербія знясілела, паступова трапіла пад турэцкую ўладу і стала часткаю Асманскай імперыі амаль на пяць стагоддзяў.

*Нягледзячы на жорсткія выпрабаванні і ахвяры, сербскі народ застаецца мужным і трывалым. Не менш важна, што ён клапатліва ахоўвае свае помнікі матэрыяльнай культуры, зберагае скарбы духоўнасці і славеснасці. А гэта скарбы вялікай вартасці. Дастаткова згадаць сербскія эпічныя песні, якімі захапляліся Гётэ, Мэрымэ, Пушкін і якія па праве набылі сусветнае прызнанне.*

Супраціўленне турэцкім заваёўнікам у розных формах аказвалася ўвесь гэты перыяд, а магутныя ўсенародныя паўстанні 1804 і 1815 гадоў далі вынік: у 1830 годзе Сербія была прызнаная як самастойны край у складзе Асманскай імперыі, неўзабаве — як княства, а ў 1867-м канчаткова пазбавілася турэцкага ярма, вярнула сабе незалежнасць. Праўда, не ў ранейшых межах. І вызваленчая барацьба працягвалася падчас Балканскіх войнаў пачатку XX стагоддзя. Потым былі яшчэ Першая і Другая сусветныя войны, а зусім нядаўна, у 1999 годзе, — вайна, якую супраць Сербіі з Чарнагорыяй, г. зн. Саюзнай Рэспублікі Югаславіі, вялі войскі НАТА, што пры дапамозе сваёй авіяцыі разбурылі сотні мастоў, прадпрыемстваў, устаноў культуры і асветы, знішчылі і пакалечылі тысячы людзей, а сотні тысяч пакінулі без даху над галавой, вымусілі стаць бежанцамі ці эмігрантамі.

У выніку апошніх пераўладкаванняў свету сербы як карэнныя жыхары апынуліся ў некалькіх новаўтвораных краінах — акрамя Рэспублікі Сербіі, у Чарнагорыі, Босніі і Герцагавіне, Харватыі, Македоніі. Драматычна, да таго ж, развіваюцца падзеі, звязаныя з будучыняй калыскі сербскай культуры — краю Косава і Метохія, адкуль сербаў ужо амаль усіх выцеснілі. А ўсё гэта, вядома, аслабляе і ўсведамленне адзінства нацыі.

Нягледзячы на такія жорсткія выпрабаванні і ахвяры, сербскі народ застаецца мужным і трывалым. Не менш важна, што ён клапатліва ахоўвае свае помнікі матэрыяльнай культуры, зберагае скарбы духоўнасці і славеснасці. А гэта скарбы вялікай вартасці. Дастаткова згадаць сербскія эпічныя песні, якімі захапляліся Гётэ, Мэрымэ, Пушкін і якія па праве набылі сусветнае прызнанне.

Безумоўна, цікавымі, своеасаблівымі з'яўляюцца і сербскія казкі. Творы вельмі разнастайныя: у адным — незвычайны герой, у другім — дзіўная падзея, у трэцім — непаўторная манера аповеду, у чацвёртым — адметныя выслоўі... Па сюжэтах можна адсачыць і час узнікнення. Відаць, самыя даўнія — тыя, што пра цмокаў, магутных змеяў. Яны, мяркуючы па ўсім, складзены былі ў дахрысціянскія часы, калі існаванне чалавека прадвызначаў страх перад усімі істотамі, проста дужэйшымі за яго. А паколькі сам чалавек тады не мог нават супрацьстаяць ім, не кажучы ўжо пра небяспеку большай сілы, то яму не заставалася нічога іншага, як наіўна спадзявацца на чарадзейства і фантазію і з дапамогаю іх ператвараць людзей у здольных на большае, чым ён сам, жывёл і птушак.

Пазней, пад уплывам цывілізацыйных змен, побач з ранейшымі цмокамі і змеямі з'яўляюцца стварэнні тыпу Чэліка (літаральны пераклад яго імені: Сталь, Сталёвы), хоць адносіны да навакольнага свету застаюцца тымі самымі. Але народнае светаўспрыманне і светаадлюстраванне ў казках перадае перш за ўсё і больш за ўсё нязменнае, тое, што мы называем агульначалавечымі каштоўнасцямі. Дакладней жа ўсё гэта азначае адвечнае імкненне чалавека знайсці і прыняць Бога. І, як пераканаўча паказваюць казкі, светапогляд язычніцкі — які па прыродзе сваёй непазбежна культываваў спаборніцтва сілы, а гэта значыць, правамернасць яе выкарыстання ў любых формах і якімі заўгодна сродкамі, — адышоў на задні план, саступаючы месца светапогляду хрысціянскаму з ідэаламі ўладкавання свету паводле прынцыпаў дабра і справядлівасці. І з уяўленнямі пра чалавека, які адпавядае гэтым ідэалам незалежна ад часу — як тысячу гадоў раней, так і на тысячу пазней.

Таму асноўны змест казак сербаў, як і беларусаў, і іншых народаў, — барацьба дабра супраць зла, а галоўная ідэя — што дабро нязменна, абавязкова перамагае. А гэтая перамога немагчыма, калі беспакарана праяўляюцца такія чалавечыя заганы, як зламыснасць, жорсткасць, здрадлівасць, сквапнасць, зайздрасць, хлуслівасць, лянота, глупства. Ім абавязкова павінны дзейсна супрацьпастаўляцца якасці станоўчыя — дабрыня, спагадлівасць, вернасць, шчодрасць, сціпласць, праўдзівасць, руплівасць, памяркоўнасць. Паказальна, што ў казках чалавеку пры абставінах, якія ён не можа вырашыць сам, дапамога аказваецца з боку усіх — чараўнікоў, жывёл, рэчаў. Адбываецца гэта не інакш як у адказ на дабро, ім учыненае. А ў сувязі з гэтым невыпадкова асаблівая ўвага надаецца сям'і як саюзу людзей узаемаадданых і нязменна дабразычлівых, усхваляецца чысціня ўсіх сямейных адносін.

Сербскія казкі маюць падабенства з беларускімі ў тым, што апавядаюць пра самыя істотныя, вызначальныя моманты жыцця — выкананне запавету бацькоў перад іх адыходам у лепшы свет, справядлівае вырашэнне праблемы пераемнасці і спадчыны, працяг роду, пошук і ўратаванне суджаной (нявесты, жонкі)... Асабліва цікавы абагулены вобраз сялянскага сына ці дачкі, якія становяцца роўняю каралям, бо ў нашых казках кароль — такі самы, як мужык, толькі багацейшы.

Вядома ж, казкі нясуць маральны запавет продкаў. Так ці інакш ён выказваецца ў кожным творы.

**Янка БУСЕНЬ**

# «КАЛІ Ў АДЧАІ ХОЧАЦЦА ПАМЕРЦІ...»:

## колькі нудных развагаў пасля юначых вершаў

**Ёсць такая кніжная серыя — «Маладая паэзія Беларусі». Задача ў яе такая ж простая, як і высакародная: даць аўтару магчымасць выдаць кнігу, прычым — бясплатна. Між тым маркер «маладая» тут не тоесны панятку «паэзія пачаткоўца». У серыі выдалі па кнізе паэты Адам Шостак, Наста Кудасава, Рагнед Малахоўскі, а іх пачаткоўцамі ніяк не назавеш. У той час як кнігі Ганны Федарук і Ірыны Радзіхоўскай, што пакуль з'яўляюцца найноўшымі здабыткамі серыі, выяўляюць сабой класічныя прыклады пачаткоўскай творчасці.**

# Дысцыпліна і палёт

Юныя аўтаркі нязменна шчырыя і безабаронна адкрытыя. Яны схільныя да драматызацыі, часам — юначага максімалізму. Яны надзвычай чуйныя да прыроды, перажываюць балючае расстанне з дзяцінствам, дзе ўсё было сапраўднае і радаснае, а цяпер... Цяпер што? Суровае дарослае жыццё, з адзінотай, падступнымі мужчынамі, і толькі творчасць — паратунак.

Вось тут варта запыніцца. Чарговы раз натрапляючы на радкі пра тое, як невыносна было б жыць без паэзіі, не можаш не задаць важнае і надзвычай сур'ёзнае пытанне: для вас гэтая творчасць — арт-тэрапія ці напраўду занятак, якому вы гатовыя аддаваць безліч гадзін, адбіраючы іх у сяброўства, сям'і, адпачынку?.. Ці гатовыя вы да працы, часам жорсткай? Ці гатовыя да крытыкі, прычым успрымаць яе не як абразу сваёй асобе, але як заўвагі менавіта датычна тэксту?.. Пра гэта варта падумаць. Інакш не будзе росту, а ён неабходны.

Галоўная бяда пачаткоўца — шматслоўе. Калі пачуццё перапаўняе, словы так і сыплюцца, сыплюцца... Але трэба ўмець сказаць «гаршчэчак, не вары». Бо ўрэшце можа атрымацца нешта зусім не ядомае. Калі працягваць той жа вобраз, кашы многа, солі мала. У чым соль? Тут два варыянты. Першы датычыць філасофскай лірыкі, якой у дэбютантаў вобмель: думка. Арыгінальная зместам і дасціпная ў выкладанні. Юны ўзрост накладае пэўнае абмежаванне на высновы, якія можа зрабіць аўтар датычна светабудовы і стасункаў людзей у ёй. Таму ў нашым выпадку больш верагодны другі від «солі»: арыгінальны вобраз, які выказвае тое самае бурнае пачуццё, што падштурхнула да вершастварэння.

Але для яркага, вытрыманага, адэкватнага (што асабліва важна) вобраза неабходна зацугляць пачуцці. Як той казаў, халодны матэматыкай вымераць палымяныя жарсці. У нашых аўтарак гэта атрымліваецца з пераменным поспехам. Пакуль пераважае апісальнасць.

Ірына Радзіхоўская, мяркуючы па скупых звестках, што ўдалося знайсці, — яшчэ нядаўняя школьніца.




Цэлая кніга для такога юнага аўтара («Ідолта» — па назве вёскі) — гэта не проста падзея, а, відаць, паўнавартаснае свята. А яшчэ — вялікая рызыка, калі сам факт з'яўлення кнігі лічыць прыкметай дастатковага для кнігі мастацкага ўзроўню ці хоць бы напрацаванага майстэрства.

Вершы спадарыні Ірыны, безумоўна, шчырыя, без трагічнага заломвання рук, без драматычных поз гераіні. Гэта добры старт. Бо калі ў вершы ты не можаш быць сабой, фінал прадказальна сумны: шэраг падробак, суцэльныя кнігі фальшу. Ірына Радзіхоўская гэтай небяспекі пазбегла.

Але патрапіла ў іншую пастку: тое самае шматслоўе, тая самая апісальнасць. Нельга не адзначыць вельмі тонкую чуйнасць аўтаркі, яе ясны зрок і асаблівы слых да прыроды. Гэта сапраўды талент — так светла і тонка адчуваць наваколле. Але яго для нараджэння паэзіі замала: тут неабходная доўгая праца са словам, і якраз яе юнай аўтарцы не стае. Гэта не трагедыя, і крокі па заваяванні паэтычнай вяршыні вядомыя: шмат чытаць, у тым ліку — сучаснікаў, такіх жа пачаткоўцаў (як пісаў Віктар Жыбуль, каб ведаць, як пісаць нявarta); а яшчэ — быць бязлітасным да сябе, да сваіх твораў.

Ірына Радзіхоўская часта звяртаецца да верлібра. Ён аўтарцы відавочна пасуе. Як толькі ў вершы з'яўляецца рыфма, з ёю — змушанасць радка. Што да верлібраў, у іх гучанне натуральнае і разняволенае, але разняволенае настолькі, што аўтарка зусім не лічыць патрэбным абмежаваць сябе. Яна апісвае гарманічныя, светлыя карціны прыроды, спрабуе ў слове перадаць гэтую ўсеагульную Песню жыцця, і ў цэлым атмасфера ствараецца. Аднак не хапае вобразаў. Апісанне — яшчэ не паэзія. Вершы атрымліваюцца мілагучныя, прыемныя, але абсалютна роўныя. Гэта не значыць, што трэба скакаць вышэй за галаву і быць тым, кім не з'яўляешся: літаратурным хуліганам, ці правакатарам, ці нешта кшталту таго. Можна, застаючыся мяккім, летуценным, стварацъ моцны вобраз, радок, які адаб'ецца ў памяці. Помніце ў Багдановіча? Выкоўвай радок да належнай вастрыні і моцы, інакш не закранеш сэрца чытача.

Збольшага вершы Ірыны Радзіхоўскай падобныя да лірычных абразкоў. Быць можа, паспрабаваць сябе ў гэтым жанры? Праўда, сёння сама па сабе замалёўка мала каго ўзрушыць (маму і блізкіх сяброў не лічым; мама будзе ў захапленні ад любое вашай творчасці). Адухаўленне прыроды разам з асаблівай, трошку медытатыўнай інтанацыяй вершаў наблізкаюць таксама думку, што Ірыне Радзіхоўскай маглі б удацца казкі. Напрыклад, у «Восеньскай раніцы» яе неба

*бароніцца невядома ад каго*
*вострымі стрэламі дажджу…*

Ці рускамоўны верш «О чём мечтают снежинки?» Яму таксама не хапае выразнасці, але талент вобразнага мыслення твор пацвярджае. «Где-то у далёкого причала…» — верш, які паказвае, што Ірына Радзіхоўская можа адысці ад апісальнасці да некалькіх лаканічных радкоў. Адно што варта вызначыцца з мовай: двух зайцоў не ўпалюеш.

Пакуль што аўтарка перажывае этап самавызначэння, і творчасць яе адлюстроўвае якраз гэты пошук: у зваротах да чытача, дзе яна піша «шукай, не бойся марыць, будзь адкрыты» і пад., укладзеныя пажаданні самой сабе.

Аднак: гэтыя лісты да сябе і пейзажныя замалёўкі нельга яшчэ назваць творчым наробкам. І з таго, што мы бачым у кнізе, магла б атрымацца паэтычная падборка ў часопісе. Але з самастойным выданнем рэдактар серыі паспяшаўся.

# Пошук арыгінальнага

У кнізе Ганны Федарук «Падглядаю ваш сон» ёсць некалькі цэнтральных тэм: сум па маці, якой больш няма побач, расчараванне ў каханні і звязаныя з тым пакуты, спробы вызначэння прыроды чалавека, яго месца ў светабудове, урэшце, уласная роля ва ўсім гэтым. Такая тэматычная пэўнасць надае кнізе адметнасць. Вылучае творчасць спадарыні Ганны яшчэ і такая рэч: аўтарка разумее, што паэзія патрабуе вобраза, і ў пошуку яго часта прыходзіць да рашэнняў, несумненна, арыгінальных, але то недарэчных, то неадназначных. Прыкладам, журавы, якія курлычуць на вушка. Ці надзвычай таямнічы радок «Спіць, як дзіця, балкон». Альбо нож, які знік, «разрубіўшы мяне на кавалачкі». Пачнем з таго, што нажом увогуле нічога не разрубіш; скончым жа эстэтычным пытаннем...

Так, памылкі бываюць. Але сама наяўнасць пошуку пра многае гаворыць. У такіх выпадках зазвычай згадваецца творчасць маладога Анатоля Сыса: гэта былі негарманічныя малюнкі, у якіх выбівалася то адно, то другое; прага выказаць драму павaрочвалася камічным бокам. Але — які вынік! Ганна Федарук смелая аўтарка, і, думаецца, яе высілкі таксама не будуць марныя. Галоўнае — не баяцца, не паддавацца жаданню быць правільным у вачах некага: гэта забівае самую прыроду таленту.

*Ля коміна, дзесьці ў кутку,*
*Знайду павуцінку ад часу.*
*За ёй працягну я руку —*
*З бакоў прычаплю, як лампасы.*

Радкі не вельмі каб зграбныя. Адчуваецца нейкая няпэўнасць, недапрацаванасць — быццам накід да будучай карціны. Але вобраз — атрыбуты часу, які даўнасці, як узнагарода чалавеку, прычым — сумніўная... Сутнасць вобраза зразумелая, яна ўзрушае. Ці з гэтага ж верша: «Гадзіннік праб'е за душой». Тут і вобраз часу, які працякае праз чалавека; і недзе на розуме — выраз «ні граша за душой», і сама нестандртная пабудова выслоўя — усё гэта хвалюе, чапляе, калі ўжо казаць пра чытацкія ўражанні. Яшчэ ўдача: «Дні ўжо даўжэй за нашыя спадніцы» (зрэшты, тут маем граматычную памылку).

Відавочна ў спадарыні Ганны пераемнасць «ад народнага»: прыродныя карцінкі, вобразы-сімвалы (дзяўчына — рака, хлопец — каршун), адлюстраванне народных прыкметаў кшталту

*Каб дзень усміхаўся вам сонечным лёсам,*
*Дарогу я з поўным вядром перайду.*

Але тут жа і рызыка — жывучыя штампы, якія вандруюць з верша ў верш і якія можна пабачыць у сентыментальных старых паэтаў: кшталту роднай сцяжынкі, што вядзе дадому, рачулкі дзяцінства і г. д. Ніхто не ставіць пад сумнеў вялікай каштоўнасці ўсяго гэтага для чалавека — пад сумнеў падпадаюць мастацкія якасці твора, які так наўпрост пераказвае сто разоў сказанае. Словам, крытыкуецца не «што», а «як». На жаль, аўтары рэдка калі размяжоўваюць гэтыя панятлі, у тым ліку аўтары «прызнаныя».

Сярод удалых знаходак Ганны Федарук адзначым таксама радкі «Паэт-дзівак заўсёды піша з верай / І прыпадае сэрцам да камля» (сінекдаха з сэрцам у цэнтры тропа — гэта ярка, запамінальна).

Спадарыня Ганна — паэтэса «прыродная»: горад у яе з'яўляецца адзінкава і тое — у антрапаморфным




абліччы, зварот да яго гучыць як зварот да каханага. Часам той жа каханы робіцца падазрона падобны да Бога. Так, любое моцнае пачуццё ў яе набывае інтымнае гучанне.

Заўжды неабходны пошук адзінага магчымага слова. Ганна Федарук можа дасягнуць і гэтага.

*Расправіў крылы*
*Мой матылёк нябесны*
*Дрыготкім вершам.*

Эпітэт «дрыготкі» трымае на сабе ўвесь верш; як і далікатны, крaнальны «матылёк нябесны». Магчыма, такі гарманічны, бездакорны нават твор атрымаўся яшчэ і таму, што ў ім спадарыня Ганна не імкнулася быць экстравагантнай?.. Была сабой?

Як і ў гэтым чатырохрадкоўі:

*Чаго я баюся, спыталі ў мяне.*
*Хацела зманіць, што нічога,*
*А сэрца сказала: «чакання ў вакне»,*
*Душа дадала: «яшчэ Бога».*

Альбо — у вершы «Перад сном», які гучыць не так афарыстычна, але натуральна.

Дарэчы, пра Бога. Ён у творчасці Ганны Федарук прапісаўся стала: дзявочыя шуканні, памножаныя на юначы максімалізм і драму, зазвычай прыводзяць да Яго. І тут варта згадаць дзесяць запаветаў юнаму паэту, якія напісаў Андрэй Хадановіч, дзе было і пра тое, што не варта чапаць Бога з кожнае нагоды — яму і без паэтычных пакутаў няпроста.

**Наста ГРЫШЧУК**

# РАСЧЫТВАННЕ АРХЕТЫПАЎ,

## альбо Тэмы для маладога айчыннага мастацтва

**Для перадачы якіх думак шукаюць адметныя мастацкія вобразы, сімволіку? Якім чынам адбываецца дыялог гледача з аўтарам і разуменне першаснай задумы творцы? Якія асаблівасці мастацкага мыслення ў сучаснай беларускай творчасці? Падчас «Восеньскага салона» ў Палацы мастацтваў ёсць падставы разважаць пра архетыпы і дыялагічныя прыёмы, якія выкарыстоўваюць аўтары.**

Разам з Вольгай Архіпавай, мастацтвазнаўцам, вядучым навуковым супрацоўнікам аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, удзельнікі адной з лекцый спрабавалі высветліць на прыкладзе канкрэтных твораў, што і чаму адлюстроўваюць мастакі. Кожны з мастакоў прапануе ўласную версію, як можа выглядаць свет. Увогуле, кожны з аўтараў па-свойму разумее мастацтва, яго задачы, прыкметы і сродкі мастацкай выразнасці. «Восеньскі салон» дазваляе зірнуць на разнастайнасць работ і паспрабаваць на прыкладах асобных экспанатаў паглыбіцца ў творчасць маладых беларускіх мастакоў, прасачыць розныя прыёмы адлюстравання рэчаіснасці: ад рэалістычных, калі мастак працуе з рэальным аб'ектам і стварае яго характар, да абстрактна-манументальных, дзе ў выніку нестандартнага мыслення аўтара рэальнасць практычна адсутнічае.



*Алеся Скарабагатая «Інь-янь», 2016 г.*

**1. Пейзажныя кампазіцыі** Паўла Масленікава адлюстроўваюць характэрны для Беларусі сельскі матыў, які мы можам пазнаць, ад'ехаўшы ад горада на некалькі кіламетраў. Маленькі домік, заснежаны дах, — добры вобраз, які дазваляе адчуць пяшчоту, звязаную з дзяцінствам, роднымі людзьмі — бабуляй і дзядулем, якіх, магчыма, няма, але ж сам дом — сімвал іх вечнай прысутнасці. Марозная зіма — яшчэ адзін удалы вобраз, які, нягледзячы на «халодную» тэматыку твора, абуджае цёплыя пачуцці. Аўтар дэманструе толькі рэалізм, які прадугледжвае выразную работу над аб'ектам. Увогуле, само прозвішча Масленікаў — таксама сімвал, яно робіць адсылку да лірычных матываў беларускай прыроды.

**2. Тэма лесу** таксама папулярная ў беларускіх мастакоў практычна ў любую пару года, бо лес зімовы, летні або восеньскі — заўсёды часцінка нацыянальнага. Вольга Шкаруба ў сваім творы аб'ядноўвае два сімвалы беларускай зямлі — лес і яркія сонечныя прамяні — абсалютна класічны пейзаж, які можна ўявіць у любых мясцінах краіны. Архетып абраны вельмі ўдала, бо глядач адразу ўспрымае твор як нешта роднае, блізкае.



*Уладзімір Кандрусевіч, 2016 г.*

**3. З параўнаннямі** паэксперыментавала мастачка Алеся Скарабагатая і падрыхтавала цікавы нацюрморт «Інь-янь». Работа з першага погляду ўяўляе сабой трыпціх, дзе суседнічаюць розныя па тэматыцы карціны. Мастачка фарміруе вобраз праз прадметы побытавага выкарыстання, нават харчовыя кампаненты. Такому прынцыпу мастакі вучацца вельмі доўга, нягледзячы на тое, што счытваецца вобраз досыць хутка. Алеся Скарабагатая паасобку размяшчае хлеб і сала (безумоўна беларуская тэма), каву і малако, віно і сыр, аб'ядноўваючы іх у сэнсавыя мастацкія вобразы з элементамі параўнання. Так, напрыклад, пераплятаюцца вобразы горада і вёскі і тэма мужчынскага й жаночага. Гэта прыклад, калі глядач можа доўга разважаць над абсалютна супрацьлеглымі аспектамі існавання.

**4. Да сувязі чалавека з грамадствам** звяртаецца мастак Уладзімір Кандрусевіч. Такая сувязь для аўтара — не толькі свет вакол, не простая аб'ектыўная рэальнасць, а знак таго, як выглядае адзін чалавек сярод іншых. Мастак вядзе аповед пра чалавека ў натоўпе і паказвае стаўленне натоўпу да асобнай істоты ўнутры яго. Аўтар робіць людзей безаблічнымі, дэманструе знакі ўзаемаадносін чалавека з грамадствам. Такім чынам, у творах аўтара пераплятаюцца два вобразы — вобраз грамадства і асобнага чалавека.

**5. Змешванне рэальнага і фантастычнага** — так падыходзіць да творчасці мастак Аляксандр Бельскі. З аднаго боку, мы бачым характэрны для сённяшняй Беларусі трактар, з другога — герояў з фантастычных кінафільмаў. Як і навошта яны звязаныя паміж сабой, незразумела, але застаецца факт таго, што глядач здольны ўспрыняць і зразумець гэтыя вобразы разам. Раней Аляксандр Бельскі працаваў у кінатэатры — маляваў афішы. Сёння па-ранейшаму карыстаецца былым досведам і спалучае кінагерояў з класічнымі беларускімі пейзажамі. Мастак жадае «разбавіць» стэрэатыпнасць думак пра Беларусь. Яго фантастычныя вобразы — пра тое, што за межамі ўтульнай атмасферы хаваюцца нечаканыя сюрпрызы.

**6. Вобраз раўнапраўя** мужчынскага і жаночага, альбо нават тэндэнцыя, калі мяжа паміж мужчынскім і жаночым сціраецца, няма моцнага і слабага полу, застаецца толькі раўнапраўе. Мастак Аляксандр Акуцыёнак гэты вобраз замацоўвае вузлом на памяць. Сапраўды, сёння не заўсёды па знешнім выглядзе вызначыш: дзяўчына гэта альбо хлопец. Што казаць пра пазіцыянаванне характару? Твор «Паласа жыцця» як сучасная тэндэнцыя знікнення полу дазваляе глыбінна падумаць над тэмай развіцця такой сітуацыі ў будучыні.

**7. Вобраз мімалётнасці і руху** адлюстраваны ў самай маштабнай па памеры рабоце «Восеньскага салона» Захарам Кудзіным. Прыклад таго, як абстрактнае мысленне ўвасобілася ў канкрэтны твор, — «Метро». Гэта можа выклікаць пэўны асацыятыўны шэраг, бо ў абстракцыі мастак апелюе да мнагазначных аналізаў, тым больш калі гэта чорна-белы жывапіс. Адсутнасць колеру — наўмысны акцэнт на моцныя эмоцыі. Для Беларусі метро не проста сродак перамяшчэння. У нашым метро адбылася трагедыя, і гэта адна з асацыяцый тых, хто, напрыклад, прыязджае ў Мінск і трапляе на Кастрычніцкую. Для жыхароў сталіцы гэта вобраз мімалётнасці, хуткасці, руху і ўсяго, што так часта праносіцца міма нас.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Захар Кудзін «Метро», 2016 г.*



# Вечар пятніцы

## дазваляюць стварыць у любы час работы Паўла Шапо

**Пачуцці пасля шумнага свята бываюць розныя. Калі радасць у душы не згасае і эмоцыі адольваюць яшчэ некалькі дзён, то гэта, напэўна, паказчык таго, што свята ўдалося. Мастак, мастак-пастаноўшчык, дызайнер інтэр'ераў Павел Шапо запрашае аматараў стыльнага мастацтва ў галерэю «*DK*» на персанальную выстаўку «*Afterparty*», дзе ў любы дзень тыдня можна адчуць доўгачаканы вечар пятніцы.**

Экспануецца каля дваццаці карцін вышынёй з рост чалавека. Усе прысвечаныя тэме адпачынку. Ніякай мітусні, праблем, побытавых пытанняў, толькі ты сам-насам з сонцам і сябрамі. Па словах мастака, гэта экспазіцыя з самага пачатку задумвалася пад дэвізам «стварыць настрой», каб тыя, хто сутыкнецца з творчасцю аўтара, змаглі перанесціся на бераг мора і адчуць сябе свабоднымі ад жыццёвых цяжкасцей.

На пляцоўку галерэі «*DK*» выстаўка Паўла Шапо была прывезеная з Масквы. Творчасць беларускага мастака ўразіла масквічоў шматграннасцю. Павел Шапо імкнецца надаць твору як мага больш сэнсавых дэталяў. Выстаўка — нібы апавяданне, дзе кожная чарговая работа — наступны раздзел, працяг мастацкага сюжэта.

Павел Шапо вядомы беларускай публіцы разнастайнымі дызайнерскімі праектамі. Яго работы ўспрымаюцца хутчэй не як галерэйныя творы, а як арт-аб'екты стыльнага хатняга інтэр'ера. Увогуле, мэта аўтара — мастацкімі кампазіцыямі стварыць утульную атмасферу свята — дасягнутая і за кошт колеравага вырашэння: большасць работ прадстаўленая ў цёплых танах.

Заўсёды да адкрыцця выстаўкі Павел Шапо прадумвае не толькі работы, але і афармленне экспазіцыі. На гэты раз для твораў падбіралася спецыяльнае музычнае суправаджэнне і святло. Мастак лічыць, што творы, вядома, — галоўныя экспанаты, але ж гэта як страва, якая можа быць смачнай, але, ніяк не ўпрыгожаная, губляе эстэтыку, і апетыт ужо не той.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Нацыянальнае — высокай пробы

**Бясспрэчная карысць любога фестывалю мастацтваў заключаецца ў тым, што зацікаўленыя гледачы атрымліваюць магчымасць пазнаёміцца з найноўшымі дасягненнямі ў той ці іншай галіне, зверыць уласныя пошукі з эксперыментамі вядомых майстроў.**



Сцэна са спектакля «Птушкі».

## ФОРМА ЎСПРЫМАННЯ

Сёлета тэатральны форум «ТЭАРТ» ладзіцца ў шосты раз. У афішы два блокі — беларуская і міжнародная праграма. Фестываль доўжыцца цэлы месяц. Спектаклі адбірае і прэзентуе незалежная кампанія «АРТ-Карпарэйшн». Фінансавую і шмат у чым арганізацыйную дапамогу аказвае Белгазпрамбанк.

За шэсць гадоў жыцця фестывалю ў яго сфарміравалася свая публіка, у асноўным моладзевая. Паўстала і ўмацавалася цікавасць да мастацтва тэатра. Прымусіўшы беларускую сцэну канкураваць з лепшымі калектывамі Еўропы, фестываль выгадаваў сваіх драматургаў і рэжысёраў, што дазволіла прасоўваць наш тэатр у еўрапейскую прастору.

Рост патрэбы ў забавах у дадзены культурна-гістарычны перыяд невыпадковы. Гэта адпавядае агульнаму стану грамадства эпохі культурнага крызісу. У той час як у цэлым сёння на многіх нашых рэпертуарных сцэнах адбываецца працэс кланавання замежных спектакляў, не варта забываць, што ў кожнай развітай краіне культурная прастора фарміруецца з нацыянальных прадуктаў. Пачынаўся «ТЭАРТ» з нясмелых спробаў прапанаваць альтэрнатыўны спектакль. Ніхто не спадзяваўся на поспех. Але ўжо, пачынаючы з дакументальнага «*Patris*», відавочна, што ёсць таленавітыя маладыя людзі і каштоўныя арыгінальныя ідэі.

Сёлета на ўдзел у форуме было прадстаўлена 36 заявак з усёй Беларусі. Эксперты, узначаленыя тэатральным крытыкам Людмілай Грамыка, адабралі 13. Атрымалася грунтоўная і таленавітая карціна са спектакляў драматычных, лялечных, харэаграфічных і перформансу.

Змяняецца тэатр. Змяняецца яго ўспрыманне. Нядзіўна, што ўзнікаюць гарачыя спрэчкі пра перспектыўнасць новых сцэнічных знаходак. У працэсе ломкі стэрэатыпаў, штоназіраецца ў наш час, змены сістэмы каштоўнасцей масава мяняецца свядомасць. На жаль, часта ў бок індывідуалістычнага характару, блізкага заходняму менталітэту. Глядач вітае не толькі адыход ад даследавання псіхалогіі ўчынкаў, але і ўздзеянне на біялагічныя, а не на разумныя пачаткі чалавечай псіхікі, новую візуальную форму. Яе можна папросту назваць успрыманнем свету праз вочы.

Псіхолагі адзначаюць, што нагляднавобразнае мысленне папярэднічае славесна-лагічнаму і спрыяе хутчэйшаму ўспрыманню інфармацыі. Дынамічнае развіццё лічбавых тэхналогій зрабіла амаль абавязковым прысутнасць на сцэне якаснай карцінкі, светлавых эфектаў, арыгінальных касцюмаў. Замест акцёра, які праманяе тэкст, з'яўляюцца візуальныя спецэфекты дзякуючы якаснай тэхнічнай апаратуры. Часцяком фарматворчасць засланяе разуменне сэнсу. Становіцца важным не тое, пра што спектакль, а як ён зроблены. Гэта агульнасусветны працэс, і мы стараемся ў яго ўпісацца.

## ХТО Ў ЛІДАРАХ

Раскладка беларускага шоу-кейса такая. Удзельнічаюць тры рэпертуарныя драматычныя тэатры: з Мінска, Магілёва і Брэста. Чатыры тэатры лялек з тых жа гарадоў плюс Гродна. Адзін праект харэаграфічны — «Прадметная размова», адзін — музычна-вакальны — «З жыцця казурак». Дзве праграмы беларускага перформансу. Адзін спецыяльна створаны для форуму — «Опіум». У 2016 годзе спектакль увайшоў у шорт-ліст конкурсу новай драматургіі расійскай «Ремарки» і прызнаны адным з лепшых пры электронным галасаванні на інтэрнэт-партале «Культпрасвет». Можна падсумаваць, што чатыры праекты натхнёныя існаваннем фестывалю «ТЭАРТ», а ўсё разам стварае яркую карціну таго, што адбываецца ў беларускай тэатральнай прасторы.

Па абодва бакі тэатральнай рампы — на сцэне і ў глядзельнай зале — з'явіліся людзі з драйв-мысленнем, якім цікавыя размовы пра жыццё з дапамогай тэатральных сродкаў. Вядома, ні тэатр, ні асобныя спектаклі не могуць адказаць на пакутлівыя пытанні быцця. Але ж галоўнае — не знайсці адказ, а паставіць пытанне ва ўсёй сумленнасці і адкрытасці. Практычна ва ўсіх работах беларускай праграмы гэтыя пытанні выразна гучаць.

Сучасны тэатр не можа не ўлічваць асаблівасці розных пакаленняў гледачоў, асабліва псіхалогію юнацкага ўзросту. Малады глядач, якому цікавыя творчыя эксперыменты, валодае павышанай узбуджанасцю, актыўнасцю паводзін, імкненнем да аўтаноміі, эгацэнтрызму. Адсюль прывабнасць і поспех тых мадэляў тэатральнай дзейнасці, дзе ёсць так званы «інтэлектуальны эксперымент». Ён звязаны з актывізацыяй удзелу гледачоў у стварэнні спектакля. Таму ў моладзі папулярныя разнастайныя перформансы. Іх у беларускай праграме было некалькі. Сур'ёзных. Пацешных. Пазбаўленых глыбокай мастацкай каштоўнасці, але, на шчасце, без эксплуатацыі абывацельскай тэматыкі і звароту да нацыянальнага менталітэту.

Асноўная лексічная рыса твораў для моладзі — слэнг. Часам са станоўчай семантыкай, часам — з адмоўнай. На сцэне сталі гучаць словы, далёкія ад літаратурнай мовы, прынесеныя з вуліцы. Дзяржаўныя тэатры пастаноўка такіх п'ес палохае. Затое за іх бяруцца энтузіясты дзеля магчымасці паказаць сучаснае жыццё з яго супярэчнасцямі.



Сцэна са спектакля «Візіт старой дамы».

## КРЫНІЦЫ РАДАСЦІ

У Беларусі вельмі моцныя тэатры лялек, і ў гэты раз сваю прадукцыю паказалі Аляксей Ляляўскі («Птушкі» і «Візіт старой дамы»), Ігар Казакоў («На дне») і Брэсцкі тэатр («Фро»), які запрасіў з Расіі рэжысёра Руслана Кудашова. Сёння гэта самы знакаміты расійскі лялечнік, які даўно сябруе з берасцейцамі. Само спалучэнне — твор Андрэя Платонава і рэжысёрская работа піцерца Руслана Кудашова — гарантыя поспеху. Брэсцкія лялечнікі бліскуча спраўляюцца са складанымі мастацкімі задачамі, распавядаючы пра лёс маладой Ефрасінні (Фро), якую любіў муж, але з'ехаў кудысьці далёка будаваць камунізм і мяняць свет з дапамогай загадкавых электрапрыбораў.

Усе спектаклі, акрамя «Візіту старой дамы», падрабязна рэцэнзаваліся на старонках «ЛіМа». Аўтар гэтага артыкула ў ацэнках з імі не разыходзіцца. Хацелася б адзначыць, што ўсе прадстаўленыя работы тэатраў лялек нейкімі ўнутранымі ўласцівасцямі настроены на жывы дыялог з гледачом, на спрэчку-дыскусію. У большай ступені гэта тычыцца магілёўскага «На дне». Пакінуўшы тэкст п'есы Максіма Горкага, рэжысёр Ігар Казакоў паказаў такое «дно», дзе капошацца нахабныя чарвякі, велізарны высахлы жыўцом жаночы труп ляжыць на авансцэне, героі выродлівыя і жорсткія. Нікога не шкада, і ў фінале тры незразумелыя істоты ўпэўнена змываюць чалавечыя істоты ў бездань. Хто не чытаў п'есу, успрыме дзейства як чорны гумар ці тэатр абсурду. Хто знаёмы з п'есай і яе шматгадовымі і шматлікімі пастаноўкамі, успомніць, што людзі дна — не бездапаможныя стварэнні. У кожнага быў лёс і ідэалы, але не знойдзена месца ў жыцці. Пранізлівыя маналогі людзей, якія апусціліся, павінны былі нарадзіць пачуццё суперажывання і жалю. Магчыма... Калі б... Хто-небудзь працягнуў руку дапамогі... Тады, у тым жыцці, такога не здарылася. Я бачыла першы прэм'ерны спектакль і зараз магу канстатаваць, што за паўгода ён змяніўся. На першы план выйшаў Васька Попел у выкананні запрошанага з драмы акцёра Івана Труса. У ранейшых інтэрпрэтацыях галоўным героем заставаўся Сацін з яго знакамітым «Чалавек — гэта гучыць горда». Зараз ні пра які гонар не можа быць гаворкі. Толькі маральныя і ў дадатак фізічныя вырадкі, якіх па нашых паняццях трэба не шкадаваць, а знішчаць.

Дык хто гэтая карная тройка? Санітары? Суддзі, якія заганялі непажаданых у сталінскія лагеры? Бескампрамісныя цэнзары? Каму дадзена права адбіраць або знішчаць чалавечы матэрыял? У мяне толькі адзін адказ: гэта касмічныя істоты, прышэльцы, якія далі нам жыццё і цяпер сартуюць, пакідаючы толькі перспектыўных асоб.

Ігара Казакова вучыў прафесіі лялечніка Аляксей Ляляўскі. Зараз настаўнік і вучань часта аказваюцца побач на шматлікіх фестывалях. «Візіт старой дамы» Ляляўскі паставіў не ў сваім тэатры, а ў Гродзенскім. Там п'еса Фрыдрыха Дзюрэнмата выдатна легла на акцёрскую трупу — трагікамічную актрысу Ларысу Мікуліч у галоўнай ролі і дзесяць мужчын. Па-свойму Ляляўскі працягвае і развівае тэму суддзяў над чалавечымі жыццямі. Ён да крайнасці абвастрае праблему дабра і зла, выказвае асцярогі з нагоды будучыні. Ляляўскі ўсё радзей працуе з лялькай, але ўсё вынаходлівей шы з прадметамі. Унітазы трансфармуюцца ў паркавыя кветкавыя вазы. Гаваркімі становяцца гальштукі. Вялікія, у духу антычнасці, маскі дапаўняюць чалавечыя характары. Дзіўная справа: пасля гэтага спектакля не ўзнікае прыгнечанага стану. Творчасць дзеля наталення смагі жыцця.

Хочацца скончыць агляд спектаклем «З жыцця казурак», які першым выйшаў на суд знаўцаў мастацтва і задаў усяму фестывалю тон у духу оды радасці. Тры маладыя жанчыны з дапамогай голасу, раяля і скрыпкі вярнулі нам настальгію па дзяцінстве. Таленавітая клаўнеса Святлана Бень сваёй яркай акцёрскай індывідуальнасцю сумясціла філасофскі склад розуму і іранічную прыроду выказванняў. Чатырнаццаць гісторый пра казурак, птушак і людзей то па-дзіцячы простыя, то трагічныя, то гумарыстычныя і ў прынцыпе радасна-жыццесцвярджальныя, суправаджаюцца смешнымі малюначкамі на экране.

Застаецца радавацца таму, што нацыянальныя тэатральныя падзеі ствараюць таленавітыя маладыя драматургі, рэжысёры, сцэнографы, акцёры.

**Таццяна АРЛОВА**

# СУР'ЁЗНЫЯ АДНОСІНЫ

## Ігар Чышчэня і яго дакументалістыка

**Кіно, па якім нас могуць ведаць за межамі, здымаюць у краіне часам не дзякуючы, а насуперак. Беларуская дакументалістыка ідзе сваім няпростым шляхам да фестываляў, да гледача і яго разумення. Рэжысёры, якія «занатоўваюць» для нас жыццё, вартыя ўзнагарод, а галоўная з іх — каб кіно глядзелі.**

### ДЗЕ ТЫ, ГЛЯДАЧ?

Беларускае дакументальнае кіно — далёка не самае цікавае для айчыннага гледача. На жаль, яго амаль не папулярызуюць, у кінатэатрах таксама стужкі круцяць рэдка, а калі штосьці сёння не рэкламуецца, то, значыць, наўпрост не існуе. На беларускія дакументалкі можна натрапіць, калі глядзець тэлебачанне, але інтэрнэт і кінатэатры таксама ніхто не адмяняў, распавядае Ігар Чышчэня: «Аднойчы мне на ТБ трапіла стужка Галіны Адамовіч, але паказвалі яе, канечне, не ў праймтайм, і калі б не выпадковасць, то стужку можна і не ўбачыць. Затое нядаўна ў інтэрнэце завяршыўся фестываль *BELARUSDOCS*. Часцей бы такое праводзілі, хоць бы штогод. У кінатэатрах мяне здзівіла такая рэч: калі ў Беларусь прывозілі амерыканскія дакументальныя стужкі, народ імкнуўся. Магчыма, гэта звязана з бясплатнымі квіткамі. А можа, людзям цікава, як там, у Амерыцы, але чамусьці яны не задаюцца пытаннем: "А што тут, у нас?"».

Як зацікавіць айчыннага гледача, каб ён пабачыў фільм? Толькі распавядаць пра тое, на якіх фестывалях кіно атрымала прызы і як выдатна яно знята. А што тычыцца выпадку з амерыканскімі дакументалкамі, то «людзі тут ішлі, мне здаецца, глядзець не амерыканскае дакументальнае кіно, а амерыканскае дакументальнае жыццё. А чаму беларускае не ідуць глядзець? Можа, таму, што мы самі ў гэтым дакументальным жыцці існуем. У прынцыпе так і ёсць. Калі раптам гледачы прыходзяць на нейкі фестываль і бачаць гэтыя фільмы, то з іншага боку адкрываюць і людзей, і гісторыі. У аўтарскім кіно значна больш важная пазіцыя аўтара і мастацкае рашэнне, а не наратыў і інфарматыўнасць, як на тэлебачанні».

Калі паглядзець тэлевізійную дакументалістыку можа ці не кожны, то кіно аўтарскага трэба дамагчыся: пашукаць у інтэрнэце ці схадзіць у кінатэатр. Да апошняга, лічыць Ігар, наш глядач пакуль не надта гатовы: «Думаю, людзі ў кіно на дакументалкі не пойдуць. Для гэтага трэба штосьці моцна змяняць. Я лічу, спачатку гледача трэба пазнаёміць з кіно найбольш лёгкім спосабам, а зараз гэта інтэрнэт. Чым больш будзе ініцыятыў кшталту *BELARUSDOCS*, тым вышэй стане цікавасць, а адпаведна і глядач зможа здзейсніць подзвіг і схадзіць у кінатэатр, а можа, нават заплаціць за гэта грошы. Публіка павінна ведаць, што яна набывае, а на дадзены момант дакументальнае кіно для яе — кот у торбе».

### ЖЫВЫЯ ГЕРОІ

Калі мастацкія стужкі прывабліваюць разрэкламаванасцю, арыгінальным сюжэтам, вядомымі акцёрамі, то дакументалістыка вабіць выдатнымі рэжысёрамі і рэчаіснасцю на экране: «Папулярызацыя фільмаў і аўтараў у дакументальным кіно звязаныя. У беларускім кінематографе дакументалка — свайго роду каста. Калі кажуць "фільмы Віктара Аслюка" ці "Галіны Адамовіч", то асабіста для мяне гэта звязка: калі я іду на фільм, то іду на рэжысёра», — гаворыць Ігар Чышчэня.

Пункт другі — рэчаіснасць. Дакументальнае кіно фіксуе нашае жыццё. Часам не вельмі прыгожае, часам дзіўнае, але заўсёды самабытнае і актуальнае (нягледзячы на тое, што падзеі, пра якія распавядае рэжысёр, сталі гісторыяй): «Кіно павінна быць розным. Ёсць людзі, якія здымаюць пра сёння, пра нас, кшталту стужак Андрэя Куцілы. Ёсць маладая плынь дакументалістаў, якія ідуць у эсэістыку. І гэта патрэбна, каб мы потым ведалі, дзе жылі, бо насамрэч для мяне самае цяжкае — атаясаміць, дзе мы жывём цяпер і як гэта правільна паказаць.



Кадр з фільма «Андрэй Такіданг. Спынюся ў сярэдзіне».

Тады трэба паказваць у фільме штосьці выключнае, што можа адбыцца толькі тут», — кажа Ігар.

Дакументальнае кіно — вельмі рознае. У тым сэнсе, што кіно, знятае для тэлебачання, і аўтарскія стужкі могуць кардынальна адрозніваецца. Ігар Чышчэня здымае і першыя, і другія: «Мне часам падаецца, што глядач наогул не лічыць аўтарскае дакументальнае за кіно, — хутчэй гэта для яго нейкі эксперымент, экзерсіс, такое глядзяць толькі апантаныя. Кажуць, усё вялікае бачыцца на адлегласці. Тое ж і з часам, і з кіно. Галоўнае — выхапіць дух пакалення».

Летась у конкурсе дакументальнага кіно «Лістапада» перамог польскі фільм Войцеха Староня «Браты». Гэта гісторыя двух ужо старых, знешне вельмі падобных братоў. Рэжысёр здымаў іх на працягу 8-9 гадоў. На фестываль у Мінск прыязджаў галоўны герой і сказаў штосьці кшталту: «Ну я ж насамрэч не такі сумны чалавек, а рэжысёр мяне паказаў



Кадр з фільма «Лічыльнік шчасця».

надта задуменным». Ігар узгадвае гэты выпадак і мяркуе: «Усё таму, што нейкія рысы героя, якія рэжысёру патрэбныя, падкрэсліваюцца, а іншыя хаваюцца. Тут нават цікавей, чым у мастацкім кіно: ты працуеш з чалавекам і не ведаеш, ён насамрэч такі ці грае на камеру. Герой аддаўся, ён ужо частка фільма. Калі чалавек сябе ў стужцы не прызнае, — што ж зрабіць? — так працуе мастацтва. Важна не нахлусіць пра героя, не хаваць яго галоўныя рысы, не рабіць кіно пра чалавека, якога ты сканструяваў. Трэба данесці думкі — усе любяць, каб іх разумелі».

Ігар кажа, што ў дакументальным кіно важнае не меркаванне гледача, не ацэнкі крытыкаў, нават не ўхваленне героя, а шчырасць з самім сабой, з аўтарам. Але гэта цяжка — рэжысёрам даводзіцца ісці на самакампрамісы. У тым ліку і ў адлюстраванні герояў. Ігар кажа, што ўсе героі, якіх ён здымаў, былі зусім іншымі людзьмі па-за камерай: «Ва ўсіх партрэтах, якія я рабіў падчас навучання ў Акадэміі мастацтваў... Мне здаецца, ні ў адным не разабраўся да канца. Гэта аказваўся зусім іншы чалавек. Цяпер я разумею, што трэба спачатку дасканала вывучыць героя, бо набіў сабе шышак. Бывае, бачыш чалавека, думаеш, які ён круты, але гэта як каханне з першага погляду: не заўсёды бывае ўзаемным. Гэта момант, калі трэба быць асцярожным».

Кінематаграфіст удзельнічаў у конкурсе *Kinosprint*. Для яго ён зняў стужку на экалагічную тэматыку (такія былі ўмовы) «Лічыльнік шчасця». Гэта стужка пра тое, як трагедыя адной краіны можа стаць праблемай усіх, — Чышчэня стварыў кіно пра чарнобыльскую катастрофу, якое атрымалася вельмі асабістым, бо гэтая падзея зачапіла і яго родных: «Мая вёска знаходзіцца недалёка ад мяжы з Украінай, таму на блізкіх гэтая падзея адбілася моцна. У дзяцінстве я гуляў з суседскай дзяўчынкай, хтосьці прывёз дазіметр, і мы бегалі па пакоях і вымяралі ўзровень радыяцыі. Мы ведалі, што робім, але ў фільме я гэты момант пераасэнсаваў: зрабіў так, каб дзеці вымяралі шчасце».

Рэжысёр кажа, што хацеў паказаць ідэалы, якімі жывуць людзі, «і што яны не заўсёды аказваюцца правільнымі». А ці атрымалася гэта зрабіць, кожны зразумее для сябе сам, бо «калі адпускаеш фільм у жыццё, то хтосьці ўбачыць у ім агітку, хтосьці пачне шукаць іншы сэнс».

### ПРАЦА/ПРЫЗВАННЕ

Звычайна тэмы для фільмаў Чышчэні прапаноўваюць на «Беларусьфільме» (рэжысёр працуе ў студыі «Летапіс»). Але аднойчы яму пашанцавала, і ён зняў кіно пра героя, якога прапанаваў сам. Гэта была стужка «Андрэй Такіданг. Спынюся ў сярэдзіне»: «Мне хацелася зняць кіно пра чалавека, якога я добра ведаў. Тут было шмат неспалучальных рэчаў, «+» і «-», кантрастаў: як жыве чалавек і як яго ўспрымаюць. Але на працы ў мяне не было ні адной тэмы, якая б не падабалася. Я люблю працаваць з культурай і мастацтвам, пра што і здымаю: мы ж выраслі ў гэтай краіне, пра гэта трэба распавядаць, гэта нават не мастацкая, а нацыянальная пазіцыя. Тут ты можаш не выявіць сябе як аўтар, але скардзіцца на тэмы няма чаго».

Каб была магчымасць на «Летапісе», кажа Ігар Чышчэня, ён хацеў бы ствараць па 3-4 фільмы ў год: «Я хачу здымаць цікавае кіно. Можа, яно не возьме шмат прызоў і не стане шэдэўрам, але гэта будзе добра зроблены фільм, за які мне не сорамна. Я такой працы чакаю, мне прыемна быць часткай гэтага. Ёсць фільмы, якія трэба здымаць. І як ты іх зняў — не так важна. Гэта праблема, пласт, які зафіксаваны жыва, дзе ёсць людзі, якімі варта захапляцца».

Кіно, што ствараецца на «Беларусьфільме», і незалежны кінематограф — два паралельныя сусветы, якія амаль не перасякаюцца. Гэта бачна хаця б па тым, што маладыя рэжысёры на кінастудыю трапіць і не спрабуюць: яны зразумелі, што могуць рабіць кіно і самі. «Кіно становіцца лепшым ад маладых ініцыятыў, бо ў стужкі ўкладаюць шмат намаганняў, і гэтая шчырасць бачная — яна прываблівае», — адзначае Ігар.

Сам Чышчэня паспявае здымаць і сваё кіно (праца працай, а ўласныя ідэі ўвасобіць таксама хочацца). Рэжысёр збіраецца працаваць над новым дакументальным фільмам на «Летапісе» — пра Францішка Скарыну: «Так, мы ведаем, хто ён, але ж трэба капнуць глыбей: які быў час? а чаму ён? чаму ён паехаў у Прагу? як гэта наогул змяніла свет? Над кожнай тэмай можна думаць, паставіцца да яе сур'ёзна, шукаць падыходы і канцэпцыі. А здымаць сучасныя і вострыя фільмы можна і па-за працай».

Ці могуць фільмы змяняць свет? А наша жыццё? Пытанне ў вечнасць. Востры фільм ці не, ён усё адно мае права на жыццё: магчыма, хтосьці з яго дапамогай пераасэнсуе нешта ў сабе, ці, наадварот, падзеі: «Хтосьці паглядзіць кіно і падумае: "Вось як трэба жыць!". Але трэба быць вельмі эмацыянальным гледачом ці натрапіць на такі ўражлівы фільм. Кіно можа прымусіць задумацца: ці ўсё робіш правільна, ці не варта рабіць нешта па-іншаму? Я не бачыў такога, каб назаўтра пасля прагляду чалавек ішоў у манахі ці ехаў у Тыбет», — тлумачыць Ігар.

Магчыма, жыццевырашальных стужак у Беларусі яшчэ не знялі. А можа, і не знімуць — хто ведае? Бо што насамрэч важна? Беларуская дакументалістыка — вельмі моцная і прывабная, пагаджаецца рэжысёр: «У нас ёсць імёны, і гэта радуе. Ёсць ніша, якую можна заняць. Зрабіць іншае дакументальнае кіно. Усё ж цяпер у нашых стужках пераважае лагоднасць і дабрыня — гэта і шпілька ў мой бок. Узровень дакументальнага кіно ў нашай краіне значна вышэйшы за ўзровень мастацкага кіно».

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# «Перапіс насельніцтва» ад Уладзіміра Кур'яна

**Тры разы ён хацеў кідаць заняткі музыкай, але, нягледзячы на гэта, стаў выдатным кампазітарам. Дзякуючы яму беларускія цымбалы ведаюць ва ўсім свеце, а спектаклі ў Купалаўскім тэатры набываюць асаблівае музычнае напаўненне.**

## МУЗЫКА БЫЛА ЗАЎСЁДЫ

Яна прыйшла ў жыццё Уладзіміра Кур'яна ў дзяцінстве так натуральна і бездакорна, як звычайна прыходзяць у дзіцячае жыццё любоў да бацькоў, сапраўдныя сябры.

Бабулі, дзядулі, маці і бацька Уладзіміра Мітрафанавіча заўсёды любілі спяваць, але прафесійна ніхто музыкай не займаўся. Бацькі вырашылі, што трэба гэтую сітуацыю паправіць і аддалі хлопчыка ў гурток вучыцца граць на баяне і акардэоне. Калі Уладзіміру споўнілася 8 год, ён пайшоў у музычную школу. Ужо ў той час праяўлялася няспынная фантазія будучага кампазітара. Для таго каб паступіць у музычную школу, трэба было прайсці невялікі ўступны іспыт — выканаць песню ў вобразе. Хлопчык абвязаў галаву бінтом, паставіў пляму ёду і ва ўвесь голас праспяваў песню пра Шчорса. Камісія ацаніла не толькі музычныя здольнасці, але і пачуццё гумару. Ён быў прыняты. Але ў той час Уладзімір не адчуваў, што музыка стане адной з асноўных спраў у яго жыцці. Падлетку хацелася, як і ўсім хлопчыкам у двары, гуляць у футбол. І тут зноў дапамагла фантазія. Ён выходзіў з дому, хаваў заплечнік, гуляў у футбол, а потым ставіў сабе ў дзённік за заняткі па музыцы «4».

— Я ставіў менавіта «4», таму што «3» была дрэнай адзнакай, а «5» — занадта добрай. У 13-14 год, калі з'яўляецца зацікаўленасць футболам, амаль усе хлопчыкі кідаюць музыку.

Магчыма, такая гісторыя здарылася б і з Уладзімірам Кур'янам, але мудрая маці ўзяла сітуацыю ў свае рукі. Яна нібыта адчувала, што ў сына сапраўдны талент, які яшчэ праявіцца. Калі хлопчыку споўнілася 15, маці сказала, што занесла дакументы ў музычнае вучылішча і праз тыдзень трэба ісці здаваць экзамены. Так Уладзімір Кур'ян аказаўся на шляху, дзе музыка і прафесія, і жыццё.

## У ТАНКУ ЦІ Ў АРКЕСТРЫ?

Менавіта такі выбар стаў перад Уладзімірам Кур'янам падчас службы ў войску. Няцяжка здагадацца, дзе ў выніку аказаўся навабранец. За два тыдні трэба было асвоіць адзін з трох інструментаў: кларнет, трубу ці трамбон. Аднойчы на канцэрце папулярнай у тыя часы групы «Арсенал» Уладзіміра Мітрафанавіча ўразіла ігра трамбаніста калектыву. Таму навабранец вырашыў пасябраваць менавіта з трамбонам. Ён плённа працаваў, займаўся і быў прыняты ў аркестр.

Нягледзячы на тое, што за плячыма ўжо была вучоба ў музычным вучылішчы, толькі падчас службы ў армейскім аркестры Уладзімір Кур'ян зразумеў, што музыка —



гэта справа яго жыцця. А першае каханне адкрыла здольнасць пісаць песні. Уладзімір пісаў і тэксты, і музыку. Тое, што выходзіла пад уплывам кахання, усім вельмі падабалася, і слухачы зноў і зноў прасілі выканаць тую ці іншую кампазіцыю. Паступова жыццё папаўнялася сяброўствам з новымі інструментамі, новымі гукамі. Калі Уладзімір Мітрафанавіч асвоіў гітару, то ў кожным новым акордзе адчуваў і колер, і словы. Таму для яго складана адказаць на пытанне пра тое, што ў песні прыходзіць першым: словы ці музыка. Кампазітар лічыць, што аснова — гэта ідэя. Бывала, што з'яўляліся акорды, вобразы, радкі, а потым усё аб'ядноўвалася ў завершаны твор.

## ВОБРАЗНАСЦЬ ГУКАЎ

Аднойчы Уладзімір Кур'ян убачыў аб'яву аб адкрыцці ў Беларусі Інстытута культуры. Гэтая назва прывабіла юнака. Але ж раней у планах было паступленне на музычна-педагагічны факультэт педагагічнага ўніверсітэта. Уступныя іспыты там праходзілі раней, чым у Інстытуце культуры. Уладзімір з поспехам іх здаў. І вырашыў застацца ў педагагічным універсітэце і не спрабаваць паступаць кудысьці яшчэ. Падчас вучобы зразумеў, што ў куплетнай форме, якая раней заўсёды вабіла, яму стала цесна. Ужо хацелася сказаць значна больш, чым дазвалялі куплеты і прыпевы ў песнях. Уладзімір Кур'ян напісаў рок-оперу «Масфан». Гэта быў першы твор такога кшталту ў Беларусі. Прэм'ера з поспехам адбылася ў цалкам запоўненай актавай зале педагагічнага ўніверсітэта. Разам са студэнтамі твор слухалі знакамітыя кампазітары.

— На прэм'еры быў і Уладзімір Кандрусевіч. Пасля прэм'еры ён падышоў і сказаў, што мне трэба паступаць у Акадэмію музыкі на кампазітарскі факультэт. Гэтыя словы запалі ў душу. І праз некалькі год я стаў студэнтам гэтай навучальнай установы, — узгадвае Уладзімір Кур'ян.

Пасля заканчэння кансерваторыі яго запрасілі на працу загадчыкам музычнай часткі Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы. І кампазітар без сумненняў даў згоду. У тэатры асноўнымі лічацца словы і дзеянне. Але ж менавіта музыка стварае неабходную атмасферу і задае настрой. Яна раскрывае эмоцыі і робіць іх больш яркімі. Падчас запісу музыкі да драмы Аляксея Дударава «Радавыя» Кур'ян адчуў, што гатовы да тэатральнай музыкі і сам можа яе пісаць. Першай і адразу ж паспяховай работай з рэжысёрам Мікалаем Пінігіным была музыка да спектакля «Там і тут». Затым праца над спектаклем «Гаральд і Мод», галоўную ролю ў якім выконвала Стэфанія Станюта. Досвед працы з ёй стаў для кампазітара неацэнным.

Праца ў тэатры паспрыяла таму, што музыка Уладзіміра Кур'яна становілася больш вобразнай. Яе можна было не толькі чуць, але і бачыць унутраным зрокам як кіно ці тэатральную пастаноўку. Прычым, ствараліся вобразы не толькі з дапамогай музычных інструментаў.

Аднойчы Уладзімір Мітрафанавіч пісаў музыку да чарговага спектакля і кіраваў працэсам падчас запісу. У студыю ён прынёс дыпламат, у якім апрача партытуры было шэсць нажоў. Кур'яна не хацелі прапускаць на студыю, пакуль не высветлілі, для чаго ў кампазітара з сабой небяспечныя прадметы.

— Калі правесці нажом па нажы, атрымліваюцца асаблівыя гукі і рытміка. Можна, канечне, гэтае гучанне знайсці на сінтэзатары, але ж з натуральным гукам не параўнаць.

Музычная тэатральнасць з'явілася ва Уладзіміра Мітрафанавіча яшчэ да таго, як ён стаў працаваць у Купалаўскім. Яна была заўсёды. Напрыклад, у цыкле «Жартоўны тыдзень» кампазітар у музыцы перадаў сваё адчуванне кожнага дня, дадаў рыфмаваныя радкі.

## ЗДЗІЎЛЯЦЦА І ЗДЗІЎЛЯЦЬ

Такі жыццёвы дэвіз Уладзіміра Кур'яна. Але ён падкрэслівае, што здзіўленне павінна быць апраўданым ідэяй і вобразам.

— Трэба прыдумаць нейкую гісторыю, каб яна была першаснай. А здзіўленне ад гэтага з'явіцца само сабой. Аднойчы я ўзяў ключ для наладжвання цымбал, які ў музыканта заўсёды побач, і правёў па струне без абмоткі. Гэты плывучы гук падобны да гуку гавайскай гітары, але са сваімі асаблівасцямі. Можна ключом не плыць па струне, а адрывіста дакранацца ці стукаць па дэке. Таксама я зацягнуў паміж струн першай актавы стужку і паспрабаваў граць. Атрымалася адрывістае гучанне, якое не трэба глушыць. Такім чынам я хацеў паказаць пульсацыю, выявіць сучасную мітусню. Першапачатковым быў гэты вобраз, а затым з'явіўся адрывісты гук.

Спачатку кампазітар бачыць і чуе тое, што хоча ўвасобіць, а ўжо потым шукае спосабы выяўлення. Дзякуючы гэтаму слухач можа расшыфраваць музычны код твора, адчуць яго і пазнаць, быццам гэта проста гукі жыцця. Калі размаўляеш з Уладзімірам Кур'янам, складваецца ўражанне, быццам музыка заўсёды гучыць у яго ўнутры. А ён проста запісвае, робіць яе вобразнай, аб'ёмнай і шчыра дзеліцца з намі. Каб і мы ўбачылі прыгажосць, сталі больш чуллівымі і зразумелі, што мы разам, што мы не ў адзіноце.

**Юлія КАРДАШ**

# «З вамі я не ў адзіноце…»

Аўтарскі вечар Уладзіміра Кур'яна пад такой назвай адбудзецца ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 25 кастрычніка. Ідэя гэтага канцэрта ўзнікла пасля таго, як Уладзімір Мітрафанавіч летась у філармоніі пачуў твор Уладзіміра Мулявіна «Песня пра долю» ў выкананні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Эмацыянальна гэты канцэрт аказаўся для кампазітара блізкім, і ён вырашыў, што трэба даставаць свае творы з шуфляды і паказваць людзям.

Дзякуючы Уладзіміру Кур'яну пра беларускія цымбалы ведаюць ва ўсім свеце. Яго Канцэрт для цымбал з аркестрам выконвалі розныя калектывы ў Еўропе, Азіі, Злучаных Штатах Амерыкі. Аляксандра Дзенісеня з гэтым творам выйшла ў фінал на конкурсе маладых класічных музыкантаў «Еўрабачанне». Але ў гэты раз падчас аўтарскага вечара публіка пазнае Уладзіміра Кур'яна з іншага боку. Прагучыць вельмі вобразны і незвычайны твор «Перапіс насельніцтва». Ідэя яго прыйшла да кампазітара падчас аднаго з фестываляў, дзе было шмат людзей розных нацыянальнасцей. Для таго каб перадаць усю глыбіню задумы, Уладзімір Кур'ян выкарыстоўвае не толькі музычныя інструменты.

— Калі я прыдумаў «Перапіс насельніцтва», пайшоў на Камароўскі рынак шукаць гусінае пер'е. Прадаўцы гаварылі, што могуць прадаць толькі цэлага гуся. Ну што ж, і гусак не прападзе, — падумаў я і набыў птушку.

Гусінае пер'е, друкавальная машынка, канцылярская пячатка, бухгалтарскія шчоты ствараюць у гэтым творы асаблівы рытмічны і вобразны малюнак. Таксама падчас творчага вечара прагучыць паэма «Дзівосы Купалля». У ёй кампазітар выказаў сваю любоў да прыроды. Уладзімір Мітрафанавіч любіць лес, вадаёмы, і калі аказваецца на прыродзе, заўсёды пры сабе мае паперу і аловак. Шмат прыслухоўваецца, назірае і запісвае. Пачуе публіка таксама кантату «Беларуская калыханка», работа над якой ішла нават яшчэ ў студэнцкія гады. Падчас канцэрта на сцэне будуць Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь і ансамбль *Amadis-Brass*.

# Творчае спалучэнне

## Валянціны Шоба і Уладзіміра Панцялеева як аснова мастацкага праекта «Птушкі»



Мастачка Валянціна Шоба падчас адкрыцця выстаўкі «Птушкі».

Гродзенская мастачка Валянціна Шоба, вядомая беларускай публіцы арыгінальнымі работамі і тэхнікай творчасці, у лістападзе 2015 года за мастацкую кампазіцыю «Улада цемры» атрымала прэмію Тэйлара ў экспазіцыі «*Art Capital*» у выставачным комплексе «Гранд пале» ў Парыжы. Мастачка амаль не працавала на замову і не імкнулася прытрымлівацца пэўных тэндэнцый, каб удзельнічаць у арт-праектах, мастацкіх конкурсах, таму перамога для яе стала нечаканай. Пасля конкурсу нельга казаць, што многае змянілася ў жыцці творцы, але яна пацвердзіла асабістае меркаванне, што мастацтва — працэс шчыры. Сёння Валянціна Шоба працягвае шмат працаваць, але, як і раней, выстаўляецца не так часта. Новы праект «Птушкі» (падрыхтаваны мастачкай у тандэме з мужам — вядомым гродзенскім скульптарам Уладзімірам Панцялеевым) дэманструецца ў галерэі «Мастацтва» да канца кастрычніка.



Скульптурная кампазіцыя з калекцыі Уладзіміра Панцялеева.

«Птушкі» — канцэптуальны праект, у аснове якога — графічныя творы і скульптурныя кампазіцыі. Валянціна Шоба прадстаўляе дзве серыі работ. Першая прысвечана наступнаму году пеўня. У ёй мастачка паказвае статнасць і прыгажосць героя твораў, ставіць акцэнт на дамінаванні пеўня. Другая частка экспазіцыі — акварэльныя нацюрморты і маленькія сюжэтна-тэматычныя творы. Якраз у іх праглядаецца індывідуальны почырк творцы: яна спалучае кветкі з рознымі арнаментамі. З першага погляду творы намаляваныя з вобразаў фантастычных герояў, сітуацый. Але ж Валянціна Шоба не згаджаецца, кажа, што кожны яе сюжэт — рэальная гісторыя, толькі зашыфраваная. І каб даведацца, што да чаго, трэба зразумець сувязь усіх выяўленчых кампанентаў твора.

У блоку мастацкіх работ Уладзіміра Панцялеева — скульптурныя кампазіцыі, у тым ліку і дарагіх сяброў, разам з якімі творца калісьці прыдумляў цікавыя вобразы птушак. Крылатыя зроблены з пластыку і дрэва, распісаныя рознымі колерамі. Разам птушкі — яркая зграя, што ўдала прыжылася ў выставачнай прасторы.

Любімыя колеры Валянціны Шоба — чорны, чырвоны і сіні. Амаль ніводная работа без іх не абыходзіцца. Справа ў тым, што гэтыя колеры надаюць творам выразнасць, перадаюць настрой напружанасці, а гэта дапамагае яшчэ доўга трымаць увагу наведвальніка. Такі падыход аўтара да мастацтва. Творца лічыць, што палатно павінна чапляць, правакаваць на глыбокія разважанні. Уладзімір Панцялееў, наадварот, выкарыстоўвае мяккія адценні, яго птушкі вельмі падобныя да казачных. Яшчэ ўвесну скульптар выстаўляў некаторыя з іх на «*Art-кірмашы*» ў Палацы мастацтваў, і там экспанаты выклікалі вялікую ўвагу як з боку дарослых, так і маленькіх наведвальнікаў.

Нягледзячы на тое, што аўтары і па тэмпераменце, і па стылі ў мастацтве абсалютна розныя, у іх работах адчуваецца пэўная сувязь і гармонія. Валянціна Шоба кажа, што гэта дзякуючы таму, што яны з мужам звязаныя не толькі шлюбам, яны лепшыя сябры, таму зусім нядзіўна, што такія далёкія па кірунках творы могуць злучацца ў адну вялікую кампазіцыю: кожны наступны мастацкі аб'ект альбо карціна дапаўняюць адно адное. Тут творчая стасункі падмацоўваюцца сямейным узаемаразуменнем. Тым больш, па словах Валянціны Шоба, муж дастаткова часта натхняе яе на цікавыя ідэі, якія пасля рэалізуюцца ў новых кампазіцыях.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

**У гісторыі беларускай культуры Марцін Кухта — ці не адзіны выдавец новага часу, чыё імя засведчана ў вершаваных радках класіка. Перад сваім заўчасным сыходам М. Багдановіч з удзячнасцю пісаў у сонечнай Ялце пра пана, які зборнікам паэзіі — знакамітым «Вянком» — выратаваў яго ад адзіноты ў апошнія дні жыцця.**

**Год смерці, месца пахавання слыннага выдаўца доўгі час былі невядомыя. Цяпер дакладна ўстаноўлена: Марцін Кухта памёр 23 чэрвеня 1956 года і спачывае побач з прадстаўнікамі сваёй сям'і на Пятрашунскіх могілках у Каўнасе.**

**Аўтар надмагільнага помніка — скульптар Юозас Зікарас (літ. *Juozas Zikaras*; 1881 — 1944). Сярод найбольш вядомых работ прызнанага літоўскага майстра — статуя Свабоды ў Каўнасе (1928), надмагілле Мікалаюса Чурлёніса (1931). Па выкананых ім макетах чаканіліся манеты незалежнай Літвы міжваеннага перыяду.**

**Мікола ТРУС**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага
рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень
па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар,
камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
20.10.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1644.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4040

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686